*РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК* *ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.*

# ПАГОНЯ

*№ 23 (78)* *15 – 21 ліпеня 1994 г.* *Кошт 300 рублёў*

*Няма чаго палохаць народ, што без такой «індульгенцыі», як вайсковы саюз, рэспубліцы ня выжыць*

*«Добразычлівы» зьмест крымінальнага кодэксу акрыліў школьніка, і ён вырашыў дзейнічаць далей*

*Крыўдна за тое, што тых, хто, страціўшы працу, самастойна «круціцца па жыцьці», клічуць спэкулянтамі*

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: *Менск – Варшава – Масква – Санкт-Пецярбург*

## ЛУКАШЭНКА ПЕРАВЁЗ РЭЧЫ ВА ЎРАДАВУЮ РЭЗІДЭНЦЫЮ

Вечарам 11 ліпеня, адразу пасьля вяртаньня са Шклова, А.Лукашэнка перасяліўся. Першы Прэзідэнт РБ пераехаў з гатэля "Кастрычніцкі", дзе здымаў нумар, калі зьяўляўся старшынёй парлямэнцкай камісіі па барацьбе з карупцыяй, у галоўны будынак, разьмешчаны ў Менску па вуліцы Фрунзэ.

Новае месца жыхарства Прэзідэнта раней зьяўлялася ўрадавай рэзідэнцыяй, дзе спыняліся кіраўнікі замежных дзяржаваў падчас візытаў на Беларусь.

Знамянальна, што кіраўнікі ўраду самі прапанавалі Аляксандру Лукашэнку заняць "царскія" апартамэнты.

## ІНАЎГУРАЦЫЯ АДБУДЗЕЦЦА 20 ЛІПЕНЯ

Згодна рашэньню Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі дэпутаты зьбяруцца ў авальнай зале Дома ўраду 20 ліпеня.

У парадак дня сэсіі, верагодна, будуць уключаны наступныя асноўныя пытаньні: прывядзеньне да прысягі першага Прэзідэнта, прыняцьце адстаўкі прэм'ерміністра Кебіча й іншых членаў ураду, а таксама ратыфікацыя дагавору аб аб'яднаньні грашовых сістэмаў Беларусі й Расеі.

## ДАТЭРМІНОВЫЯ ВЫБАРЫ АДБУДУЦЦА?

Старшыня камісіі па заканадаўству ВС РБ Д.Булахаў падрыхтаваў праэкт указу Прэзідэнта аб датэрміновых парлямэнцкіх выбарах. Зроблена гэта на той выпадак, калі парлямэнт на сэсіі не пагодзіцца сам датэрмінова пайсьці ў адстаўку. Д.Булахаў паведаміў: "Працэс гэты пажаданы, таму праведзены неабходныя напрацоўкі, каб ён не затрымліваўся."

Абгрунтаваньне падрыхтаванага ўказу - неаднаразовыя абяцаньні парлямэнта правесьці датэрміновыя выбары, бо з юрыдычнага боку гэтае пытаньне (роспуск парлямэнта) дастаткова спрэчнае. Ёсьць зьвесткі, што адбыліся неафіцыйныя кансультацыі з Канстытуцыйным судом. У выніку дасягнута дамоўленасьць аб тым, што апошні падтрымае такі ўказ.

## ВА ЎРАДЗЕ ЧАКАЮЦЦА ПЕРАМЕНЫ

Па праву пераможцаў Аляксандр Лукашэнка й яго памагатыя ўзяліся за самую прыемную справу - разьмеркаваньне міністэрскіх партфэляў. Акрамя Лукашэнкі, шанцы заняць кіруючыя крэслы маюць і некаторыя з міністраў, што ўваходзілі ў каманду Кебіча.

Верагодна захавае пасаду віцэ-прэм'ер Іван Кэнік, а таксама першы намесьнік Старшыні Савета Міністраў спадар М.Мясьніковіч. Рэальным прэтэндэнтам на крэсла прэм'ера зьяўляецца пасол Рэспублікі Беларусь у Расеі Віктар Даніленка. Практычна няма шанцаў застацца пры ўладзе пасьля судовых іскаў у міністра абароны Паўла Казлоўскага, старшыні КДБ Г.Лавіцкага, міністра ўнутраных справаў Данько і ў начальніка памежных войскаў Бачарова.

Ня выключана, што на пост міністра абароны А.Р.Лукашэнка будзе рэкамэндаваць парлямэнту Пятра Чавуса, які нядаўна займаў пасаду выконваючага абавязкі міністра абароны. Новым старшынёй КДБ, магчыма, стане намесьнік Генадзя Лавіцкага Валеры Кез. Праўда, уплывовыя сябры Аляксандра Рыгоравіча лічаць, што ня выключана магчымасьць вярнуць на гэтую пасаду нядаўняга кіраўніка КДБ Э.Шыркоўскага. Такая ж пэрспэктыва ёсьць і ў былога міністра ўнутраных справаў Уладзіміра Ягорава. Што тычыцца лёсу генэрала Бачарова, то па зьвестках рэдакцыі стала вядома, што ён жадае адыйсьці ў штаб расейскіх паветрана-дэсантных войскаў. Аднак у прэс-цэнтры памежных войскаў Беларусі дадзеную інфармацыю не пажадалі камэнтаваць, згадаўшы толькі, што генэрал Бачароў не зьбіраецца ні ў якое замежнае войска.

## ВЯЧАСЛАЎ КЕБІЧ ПАДАЎ У АДСТАЎКУ

Вынікі выбараў не пакінулі прэм'ерміністру іншага варыянту, як зрабіць заяву аб адстаўцы, у якой, у прыватнасьці, гаворыцца: "Нягледзячы на блізкасьць нашых з Аляксандрам Рыгоравічам праграмаў, мы па-рознаму бачым шляхі іх ажыцьцяўленьня. Найбольш важкай заслугай і ўрада, і сваёй асабіста лічу...пасьлядоўнае збліжэньне з Расеяй. Мяркую, што мы ўжо не спынімся ў гэтым руху... Існуюць сілы, якія ніколі ня згодзяцца з нашым саюзам з Расеяй. Пакуль яны прайгралі, але нікуды ня зьніклі. Мэты іх відавочныя: зкампраматаваць цяперашнюю ўладу, у тым ліку й Прэзідэнта, і прыйсьці на хвалі новага народнага абурэньня".

Упершыню Вячаслаў Кебіч зьбіраўся падаць у адстаўку яшчэ 24-25 ліпеня, але тады ад гэтага кроку яго адгаварыла каманда. Сёньня гэты крок зроблены. 11 ліпеня ў адстаўку падалі ўсе. Але некаторыя сябры каманды Кебіча могуць атрымаць пасады ў новым габінэце, таму што, па некаторых дадзеных, у час перадвыбарчай кампаніі яны спачувалі Аляксандру Лукашэнка.

**СІМ.**

## МУЖЧЫНСКАЯ ГАЗЭТА

50-тысячным накладам у Менску выйшаў першы нумар рэспубліканскай "Мужской газеты". Рэгулярны выпуск мужчынскага штотыднёвіка плянуецца з верасьня.

Асноўнаяч мэта, з якой ён задуманы, - даць мужчынам адчуць сябе здабытчыкамі, карміцелямі сям'і, надзейнай апорай для жанчын. Так як у выніку роўнасьціпалоў, паш ангеліны грамадзтва пазбавілася сапраўдных мужчын. "Выратуйце мужчын - яны выратуюць дзяржаву," - такім рэдакцыйным артыкулам і адкрываецца першы нумар газэты.

Калі ж меркаваць па аўтарах і публікацыях, газэта наша мужчынская, і робіць яе не "змучаныя" таталітарнай ідэялёгіяй, а тыя журналісты, хто імкнецца зрабіць наша грамадзтва адкрытым і сапраўды дэмакратычным.

**І.ПЯТРОЎ.**



## СУСТРЭЧА ПРАЗ 50 ГОД

В.А.Акімаў і А.А.Марыненка сустрэліся ў Хойніках падчас сьвяткаваньня 50-гадовага юбілею вызваленьня роднай Беларусі. Ліхалецьце вайны ўспамінасцца ім як жудасны сон. Нялёгка было і ў пасьляваенныя гады, але ўсё гэта непараўнальна з гонарам за Радзіму, якая сёньня вольная й незалежная.

**На здымку: В.А.Акімаў (зьлева) і А.А.Марыненка. Фатаграфаваў І.БАРЫСАЎ.**

## АДЗІНЫМ ШЛЯХАМ

У Берасьці ўбачылі сьвет першыя нумары газэты "Шлях". Яна роднасная па духу нашай "Пагоні". Толькі ў малодшай сястры значна больш заснавальнікаў - Берасьцейская філія рэспубліканскага фонду падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Льва Сапегі, рэгіянальная Рада Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", гарадзенская філія БСДГ, вабласное аддзяленьне Саюза пісьменьнікаў Рэспублікі Беларусь, грамадзкае аб'яднаньне "Стары горад".

**І.ПЯТРОЎ.**

## ВАЛЮТНЫ ПРАФСАЮЗ

Нядаўна ў адным з нумароў гарадзенскага гатэля "Турыст" адбыўся сход мясцовых прадстаўніц самай старажытнай жаночай прафэсіі. Прысутнічала каля 30 чалавек, якія вызначылі, што ў Горадні неабходна заснаваць прафсаюз прастытутак. Пераважнай большасьцю быў прыняты вусны статут арганізацыі, згодна з якім сябры прафсаюза могуць атрымліваць матэрыяльную дапамогу ад складак, маральную падтрымку, абарону.

Сябрамі прафсаюза сталі 22 прастытуткі. Ёсьць і абмежаваньні. Уступіць у прафсаюз могуць толькі тыя, хто атрымлівае за свае паслугі "зялёныя".

**Б.Д.**

## І ЗАВОД МАЮЦЬ, І БЕЗПРАЦОЎЯ МЕНШ

У Іўеўскім раёне Гарадзеншчыны, дзякуючы сродкам мясцовага бюджэту, пабудаваны завод па вырабу цэглы. Завод ужо дае прадукцыю. А ў Іўі задаволены, што амаль палова з больш як ста безпрацоўных працаўладкавана.

**Г.У.**

## ЗНАЙШОЎ КАГО ПРАСІЦЬ

Кур'ёзны выпадак здарыўся 3 ліпеня ў Бабруйску. Раней асуджаны Дрык, пагражаючы пісталетам Макарава, запатрабаваў ад уладзіцеля прыватнай аўтамашыны адвесьці яго на бульвар Маладзёжны. Злачынцу не пашанцавала: за рулём аўтамабіля быў сяржант міліцыі Салавей, апрануты ў штатнае. Ён адабраў у Дрыка пісталет з адным патронам. Злачынца затрыманы.

**СІМ**

## Гарадзенская Вабласная Рада БНФ заклікае

У гэты складаны й цяжкі для нашай Бацькаўшчыны, Беларусі, час, калі ўладныя намэнклятурныя структуры раскрадаюць і распрадаюць здабытак нашага народу, выступаюць супраць беларускай незалежнасьці, мовы й культуры, усім, каму не абыякавы лёс нашай дзяржавы, трэба аб'яднацца пад штандарам Беларускага Народнага Фронта "Адраджэньне". Уступайце ў БНФ!

Пішыце на адрас: 230025, г.Горадня, а/с 139. Тэлефануйце штодзень з 9.00 да 17.00 па тэлефоне 45-41-83.

# ВЫНІКІ ГАЛАСАВАНЬНЯ ПА ВЫБАРАХ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 10 ЛІПЕНЯ, ДРУГІ ТУР

| Раёны й гарады | Колькасьць выбаршчыкаў | З іх галасавалі | Кебіч В.Ф. | | | Лукашэнка А.Р. | | | Колькасьць бюлетэняў прызнаных несапраўднымі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | за | супраць | % за | за | супраць | % за | |
| Берастаўвіцкі | 15918 | 13805 | 1540 | 12225 | 11,16 | 11602 | 2163 | 84,04 | 40 |
| Ваўкавыскі | 29247 | 24171 | 3043 | 21034 | 8,9 | 20152 | 3925 | 83,37 | 94 |
| Воранаўскі | 28479 | 24526 | 4785 | 19705 | 19,5 | 15343 | 9147 | 62,56 | 36 |
| Гарадзенскі | 51358 | 39576 | 3355 | 36002 | 8,48 | 34537 | 4820 | 87,27 | 219 |
| Дзятлаўскі | 31345 | 26771 | 3574 | 23135 | 13,35 | 21528 | 5181 | 80,42 | 62 |
| Зэльвенскі | 20999 | 18009 | 1494 | 16423 | 8.29 | 15546 | 2371 | 65,17 | 92 |
| Іўеўскі | 30377 | 23853 | 1306 | 22469 | 5,47 | 21491 | 2284 | 90,09 | 78 |
| Карэліцкі | 25645 | 22133 | 1406 | 20643 | 6,35 | 19898 | 2151 | 89,90 | 84 |
| Лідзкі | 37570 | 28151 | 1887 | 26175 | 6,7 | 25061 | 3001 | 89,02 | 89 |
| Мастоўскі | 32603 | 25474 | 1861 | 23526 | 7,3 | 22093 | 3294 | 86,73 | 87 |
| Навагрздзкі | 25158 | 21937 | 1300 | 20560 | 5,9 | 19889 | 1971 | 90,66 | 77 |
| Астравецкі | 22172 | 16926 | 2677 | 14174 | 15,81 | 12880 | 3971 | 76,1 | 75 |
| Ашмянскі | 27983 | 20902 | 1701 | 19130 | 8,14 | 18250 | 2581 | 87,31 | 71 |
| Сьвіслачскі | 21083 | 18396 | 1339 | 17016 | 7,28 | 16095 | 2260 | 87,49 | 41 |
| Слонімскі | 18727 | 16729 | 3556 | 13141 | 21,32 | 12147 | 4550 | 72,61 | 32 |
| Смаргонскі | 21280 | 15901 | 1806 | 14070 | 11,36 | 13216 | 2660 | 83,11 | 25 |
| Шчучынскі | 50735 | 35803 | 3468 | 32218 | 9,69 | 31129 | 4557 | 86,95 | 117 |
| ГОРАДНЯ, у тым ліку: Ленінскі р-н | 97404 | 54611 | 9370 | 45062 | 11,66 | 40790 | 13642 | 74,69 | 179 |
| Кастрычніцкі р-н | 113748 | 69004 | 12113 | 56709 | 17,55 | 51566 | 17256 | 74,73 | 182 |
| ВАЎКАВЫСК | 29028 | 19378 | 1991 | 17307 | 10,27 | 15802 | 3496 | 81,55 | 80 |
| ЛІДА | 70189 | 44487 | 6321 | 38056 | 14,21 | 34972 | 9405 | 78,61 | 110 |
| НАВАГРАДАК | 21424 | 16149 | 1969 | 14116 | 12,19 | 13023 | 3062 | 80,64 | 64 |
| СЛОНІМ | 37363 | 27425 | 6159 | 21064 | 22,46 | 19162 | 8061 | 69,87 | 202 |
| СМАРГОНЬ | 25162 | 14254 | 2233 | 11993 | 15,67 | 19843 | 3383 | 76,07 | 28 |
| УСЯГО | 884997 | 638371 | 80254 | 555953 | 12,57 | 517015 | 119192 | 81 | 2164 |

# ГІСТОРЫЯ НІЧАМУ НАС НЕ НАВУЧЫЛА,

## АЛЬБО ДАРОГА НАЗАД

Як вядома з горкага вопыту нашай гісторыі, першым этапам да таталітарызму й культу асобы зьяўляецца ўвядзеньне аднадумства ў краіне. Пачатак яго ўжо закладваецца ў нас, у Рэспубліцы Беларусь. Так, усё складанеў надрукаваць тое, што недаспадобы ўладам, на гэта адразу навешваецца ярлык "провокация". Праааналізуем падзеі мінулага года. Калі вясной ішла палеміка ў "Гродзенскай праўдзе" ад неабходнасьці вайсковага саюзу з Расеяй, я таксама выказаў сваю думку па гэтаму пытаньню. Але артыкул не надрукавалі ні вабласная, ні рэспубліканская газэты, хаця афіцыйна ніхто не адмаўляў. Сутнасьць яго ў наступным аналізе. Я, які адчуў жахі вайны на ўласнай скуры, у якога загінулі бацькі й брат, ня згодны, што вайсковы саюз - панацэя Беларусі ад усіх бядот і не ўплывае на яе сувэрэнітэт, як увесь час спрабавалі даказаць Кебіч і яго "сотоварищи".

Гісторыя вучыць адваротнаму. Любы вайсковы дагавор супярэчыць ня толькі палітыцы нэйтралітэта й незалежнасьці, але й інтарэсам дзяржавы ўвогуле. Вайсковы саюз - гэта вайсковы блёк, які раней ці пазьней уцягне рэспубліку ў бездань супрацьстаяньня з іншымі аналягічнымі ўтварэньнямі. Такая дыялектыка ўсіх вайсковых блёкаў і саюзаў.

Няўжо выратавала Беларусь ад трагэдыі "моцная" зьвязка з СССР? За што, за чые інтарэсы гінулі нашыя хлопцы ў Афганістане й іншых "горячих точках"? Гэта трагедыя любой краіны, што знаходзіцца ў блёку й страчвае незалежнасьць і нэйтралітэт. Калі вырашаць такое важнае пытаньне, то неабходна было б зрабіць гэта па справядлівасьці - шляхам рэфэрэндуму - з адназначным, зразумелым пытаньнем. І няма чаго палохаць народ, што без такой "індульгэнцыі", як вайсковы саюз, рэспубліца ня выжыць.

Незалежныя Швэйцарыя й Швэцыя найлепшым чынам выжылі падчас другой сусьветнай. Менавіта блёкі ствараюць небясьпеку для народаў, асабліва малых краін. Апошнія, у першую чаргу, і служаць "козлами отпущения" у палітыцы мацнейшых. Таму ня трэба нашай дзяржаве станавіцца закладнікам чарговага блёку ў інтарэсах усходняга суседа. Бо кожны блёк - кароткачасовае стварэньне, але пры яго распадзе асноўны цяжар кладзецца на малыя краіны. Толькі нэйтралітэт і незалежная палітыка ствараюць найлепшую гарантыю бясьпекі й дабрабыту народа. Дух народа зьяўляецца гарантам яго незалежнасьці, а ня блёк.

У 1941 годзе з прыгранічных раёнаў першымі зьбеглі высокія партыйныя чыны, пакінуўшы народ сам-насам з ворагам. Ён з першых жа дзён вайны стаў на барацьбу з захопнікамі. Ужо з ліпеня 41-га йшлі пад адхон нямецкія эшалёны, а сьмерць чакала фашыстаў на кожным кроку. Народ перамог мужнасьцю, вялікай кроўю, пакутамі, не "разумнымі" блёчнымі стратэгіямі.

Але калі камусьці захацелася ўступаць у блёкі й "поиграть мускулами", то няхай зьбірае аднадумцаў, стварае свой "ударный батальон" і ўступае ў любы блёк - "гарачых кропак" на зямлі хапае.

Такія думкі да друку не дапускаліся, хаця "блёчныя" артыкулы друкаваліся рэгулярна. Асноўная трагэдыя ў тым, што парлямэнцкая большасьць клапоціцца аб тым, каб захаваць сваю ўладу. Не задумваючыся прыладкоўваюцца да іншых, паслужліва "заігрываючы" з вайскоўцамі - дзе ўжо тут да нэйтралітэту й інтарэсаў народа? Непасьлядоўны С.Шушкевіч не зусім упісаўся ў іх пляны, таму яго прыбралі, выкарыстоўваючы старыя бальшавіцкія мэтады: болей шуму, фальшы, папулізму. Тут ролю "мавра" выдатна згуляў А.Лукашэнка - цяперашні прэзідэнт, прадстаўнік і выразьнік інтарэсаў парлямэнцкай большасьці.

Чым займаецца парлямэнт у складаны для краіны пэрыяд, калі эканоміка трашчыць па швох, цэны растуць, народ бяднее? Яны на працягу трох дзён разглядаюць пытаньне аб дэпартацыі злачынцаў у краіны, дзе яны пераступілі закон. І ўсё гэта адбываецца за зачыненымі дзьвярыма. Што ж так хавалі "избранники народа" ад самога народа?

Чаму завыла пракамуністычная большасьць пра парушэньні правоў чалавека й сувэрэнітэце рэспублікі толькі пасьля дэпартацыі літоўскіх камуністаў- злачынцаў? Чаму "змагары за справядлівасьць" маўчалі, калі гэтыя асобы незаконна трапілі на Беларусь і жылі тут? Чаму гэтыя "великие человеколюбы" афіцыйна й адкрыта ня вызначылі ім статус палітычна прасьледуемых, калі яны на самой справе такімі зьяўляліся? Чаму яны цяпер маўчаць пра сувэрэнітэт, калі Чарнамырдзін у інтэрв'ю тэлебачаньню заяўляе: "Канешне, з уваходжаньнем Беларусі ў рублёвую зону яна страціць частку сваёй незалежнасьці, бо Расея ніколі не дапусьціць шкоды сваім інтарэсам". Яшчэ шмат "чаму" зьяўляецца ў людзей, але адказ атрымаць немагчыма.

Хто назіраў за работай беларускага парлямэнта, той, напэўна, заўважыў, як фанабэрыста намэнклятурная большасьць глядзела на табло галасаваньня, правальваючы ў чарговы раз слушныя прапановы тых, хто думаў інакш. А якім пеўнем выглядаў А.Лукашэнка пасьля абвяшчэньня вынікаў галасаваньня па адстаўцы Шушкевіча, як пераможна пацiскаў далоні сваіх аднадумцаў. Так званая работа камісіі, якую ён узначальваў - ня што іншае, як палітычнае шоу.

Напэўна, шмат хто памятае "лицемерный" выступ Кебіча 9 лютага бягучага года. Калі апазыцыя актывізавала сваю дзейнасьць і адначасова ўзьняліся цэны на хлеб. Кебіч заяўляў, што гэта правакацыя, і вінаватыя будуць пакараныя. Павышэньне цэнаў было адменена. А калі апазыцыя ня здолела абудзіць народ і прэм'ер зразумеў: крэсла пад ім не хістаецца, праз тры дні ўзьняліся цэны на хлеб у тры разы, але чамусьці ніхто ня быў пакараны. З таго часу цэны на ўсе тавары ўзьнімаюцца штомесяц ці нават па некалькі разоў на месяц. Гэта ўжо не правакацыя.

Як лукавіў Кебіч, аргумэнтуючы сваё жаданьне аб'яднаць грашовыя сістэмы, прыводзячы аналёгію з ад'яднаньнем Эўропы. Дай нам, Божа, у такой ступені быць незалежнымі, як эўрапэйскія краіны, а ўжо потым можна было б аб'ядноўвацца. Няўжо не блефаваў ён, адказваючы "не" на пытаньне ІТАР-ТАСС: "Не пугает Кебича тот бардак в России, который может распространиться на Беларусь после объединения денежных систем"?

У час перадвыбарчай прэзідэнцкай кампаніі большасьць сродкаў масавай інфармацыі прыкладала намаганьні, каб зрабіць Кебіча ў вачах народа самым "умным, великим, экономически сильным лидером, равного которому нет в республике". Такім чынам яму ствараўся культ незамяняльнасьці. Хутка мы ўсе станем сведкамі, як такі ж культ будзе стварацца Лукашэнку. Камуністы йнакш ня ўмеюць.

Але новую палітыку павінны рабіць сапраўды новыя людзі. Трагэдыя наша ў тым, што ва ўладзе няма свайго Валэнса ці Гавэла. Тыя ж людзі, што былі ва ўладзе раней, працягваюць свой баль. Становіцца сьмешна ад самаўпэўненасьці палітыкаў, якім здаецца, што іх цяперашняя моц здольная зьнішчыць памяць аб іх учынках. Гісторыя ўсё раставіць па сваіх месцах. Дзейнасьці такіх "палітыкаў" будзе дадзена адпаведная ацэнка. Праўда цяперашнім падманутым гарапашнікам ад гэтага малое суцяшэньне.

**А.ШАЎЧУК,**
**член Рады Дэмакратычнай арганізацыі ветэранаў г.Горадні.**

# І ПАМЯНЯЛІ ШЫЛА НА МЫЛА

**ЗАМЕСТ КАМЭНТАРА**

Вынікі другога туру галасаваньня па выбарах прэзідэнта нагадваюць вядомы выраз: "Король умер. Да здравствует король!" Кебіч, які атрымаў сакрушальнае паражэньне як палітычны дзеяч ніколі ўжо не падымецца. Але яго палітычны накірунак і зьмест поўнасьцю засталіся на дзяржаўным Алімпе ў асобе новага кіраўніка - Аляксандра Лукашэнкі, праграма, палітычныя сымпатыі й паходжаньне якога дазваляюць зрабіць выснову пра тое, што народ з вялікім пад'ёмам і энтузіязмам памяняў шыла на мыла.

Шмат хто ў адказ на такія разважаньні безапэляцыйна заяўляе: "Народ заўсёды мае рацыю!" - На вялікі жаль, не! І аргумэнт адносна вынікаў нашых прэзідэнцкіх выбараў тут ня самы важкі. Успомнім Вялікую Кастрычніцкую рэвалюцыю ў Расеі, успомнім 1933 год у Нямеччыне... Прыкладаў такога кшталту - процьма. А сутнасьць адна: сон розуму нараджае пачвараў. Асьлепелены народ тыкаецца ва ўсе бакі ў пошуках людзкай долі. І, як правіла, ідзе ў бок таго, хто гучней за ўсіх крыкне...

Што ж з гэтага вынікае? Ды нічога. Жыцьцё працягваецца. Кожны новы дзень будзе здуваць адзін за другім тыя фігавыя лісткі з постаці "народнага лідара", у якія то хлусьнёй, то ашуканствам ён сам сябе апрануў. Па меры таго, як будзе зьлятаць гэтае шалупіньне, усё выразьней будзе праяўляцца сапраўдны твар Лукашэнкі: камуністычная сутнасьць і ваяўнічы непрафэсіяналізм...

Задача тых, хто гэта бачыць ужо сёньня - дапамагчы расплюшчыць вочы суседзям. Чым хутчэй гэта адбудзецца, тым лепш.

**М.ТУРАВЕЦ.**

# РАССЬЛЕДАВАНЬНЕ СТРАЛЬБЫ Ў ЛІЁЗНА: НОВЫЯ ВЭРСІІ КДБ Й ЛУКАШЭНКІ

Супрацоўнікі Камітэта Дзяржаўнай Бясьпекі Беларусі, што займаюцца расьследаваньнем гісторыі з замахам на Аляксандра Лукашэнку, вылучылі новую вэрсію наконт таго, што адбылося.

На іх думку, страляў па "Мэрсэдэсу" Івана Ціцянкова адзін з трох дэпутатаў, што ехалі ў аўтамабілі.

Інфарматар СІМ паведаміў наступнае: "Яны спынілі машыну й выйшлі з яе. Стралок добра прыцэліўся, каб, ня дай Божа, не пашкодзіць сур'ёзна іншамарку Ціцянкова. Але пакуль што мы ня можам прадпрымаць у адносінах да гэтых трох ніякіх апэратыўных дзеяньняў, бо ўсе яны зьяўляюцца дэпутатамі Вярхоўнага Савета".

Што датычыцца Лукашэнкі, то падчас сустрэчы з выбаршчыкамі ў Сьветлагорску яму было зададзена пытаньне: "Як магла куля ўвайсьці ў аўтамабіль пад такім нерэальным вуглом?" У адказ той ня выключыў магчымасьці, што па яго аўтамабілю стралялі з вэрталёта.

# ВЫНІКІ ПЕРШАГА ТУРУ ВЫБАРАЎ, МАГЧЫМА, СФАЛЬСІФІКАВАНЫ

Як паведаміла добра інфармаваная крыніца, блізкая да ўраду, у саўмінаўскіх колах упарта цыркулююць зьвесткі аб тым, што Вячаслаў Кебіч здолеў трапіць у другі тур выбараў толькі дзякуючы карэкціроўцы вынікаў галасаваньня 23 чэрвеня. Па гэтай версіі Аляксандр Лукашэнка павінен быў стаць Прэзідэнтам Беларусі ўжо па выніках першага тура, калі ён набраў каля 55 працэнтаў галасоў выбаршчыкаў. На другім месцы ішоў Пазьняк.

Аднак у выніку дзейнасьці выбарчых камісій Лукашэнка й Пазьняк страцілі частку галасоў, а Кебіч, наадварот, атрымаў.

У той жа час, Цэнтрвыбаркам неадназова абвяргаў магчымасьць фальсіфікацыі вынікаў выбараў.

**СІМ.**





# «ПАСТАР ПЁТР З САКСОНІІ»

Сёлета ў госьці да эвангэлісцка-лютэранскай грамады Горадні наведалася роднасная дэлегацыя з горада Растока (Нямеччына), якую ўзначальваў пастар Арвід Шнаўэр. Госьці, як і летась, прывезьлі гуманітарную дапамогу, якая накіравана на патрэбы другога дзіцячага шпіталю й кардыялагічнага дыспансэра Горадні.

Транспарцёры з дапамогай, якая каштавала 400 000 дойчмарак, былі запаркаваны ў гаражы аблвыканкаму. Ноччу адзін з транспарцёраў нехта абрабаваў. Злодзеі скралі мэдыкамэнты, шакаляд, цацкі, вопратку, радыёапаратуру агульнай вартасьцю на 8 000 дойчмарак.

Пасьля адпаведных захадаў гарадзенскіх "пінкертонаў" справа бруднай акцыі праз два дні быў выкрыты. На жаль, значную частку скрадзенага злодзей пасьпеў прадаць. Тое, што было сканфіскавана пры затрыманьні, перададзена адрасатам. Як ня дзіўна, але злачынцам аказаўся 15-гадовы юнак, вучань адной з гарадзенскіх школаў. На дзіва тых жа немцаў, гэты 15-гадовы злодзей вельмі хутка апынуўся на волі, бо як непоўнагадовы не нясе адказнасьці за крадзяжы ў вельмі буйных памерах. Такі "добразычлівы" зьмест некаторых артыкулаў крымінальнага кодэксу нашай дзяржавы да непоўнагадовых акрыліў школьніка, і ён вырашыў дзейнічаць далей.

Ноччу да ахоўніка аблвыканкамаўскага гаражу патэлефанавалі. Усхваляваны голас паведаміў, што пастыр з Нямеччыны захварэў і яму кожныя дзьве гадзіны неабходна рабіць уколы. Голас у трубцы згадаў, што да гаражу пад'едзе прадстаўнік дэлегацыі, знойдзе нібыта згубленыя ключы й возьме ўсё неабходнае.

Хутка да ахоўніка падыйшоў малады чалавек і на дрэннай расейскай мове адрэкамэндаваўся - "Пастар Пётр з Саксоніі". Не знайшоўшы ключоў, ён узламаў дзьверы аднаго з прычэпаў і па-гаспадарску распачаў вывучаць маёмасьць. Адабраўшы неабходнае для "лекаваньня", папрасіў ахоўніка дапамагчы вынесьці "лекі" на вуліцу. Ахоўнік добрасумленна выканаў просьбу.

Юны прайдзісьвет, адчуўшы сваю безпакаранасьць, з дапамогай тэлефонных званкоў і наведваньнем лютэранска-эвангэлісцкай грамады Горадні, ня ведаючы таго, што нават праваслаўныя й каталіцкія сьвятары апранаюць расу толькі падчас імшы, дзейнічаў кожны раз усё больш нахабна. Найбольшую актыўнасьць ён выяўляе пры кантактах з замежнымі дэлегацыямі. Дзе б ён не зьяўляўся - паўсюдна зьнікаюць рэчы, радыётэхніка, грошы й многае іншае. Нядаўна самазваны "Пастар Пётр з Саксоніі" скраў у адной з замежных дэлегацый рэчавы мяшок з дакумэнтамі й грашыма. Махлярскім шляхам атрымаў ад фірмы "РААБЭ" прадукты на 500 даляраў.

Можна ўявіць, што думаюць пра Горадню абрабаваныя госьці. А пакуль безпакараны й нахабны непаўнагадовы самазванец дзейнічае, наш горад абмінуць многія місіі, якія жадаюць шчыра дапамагаць людзям.

**А.В.МІЛЬЛЕР,**
**старшыня вабласнога цэнтру нямецкай культуры.**

# ПРА ЗАРОБАК, БЕЗПРАЦОЎЕ І СУСЬВЕТНУЮ АРГАНІЗАЦЫЮ ЦК КПСС

Вялікая канфэрэнцзала аблвыканкаму палохала пустэльняй. Журналісты, а было іх чалавек 10-15, цярпліва чакалі тых, хто павінен быў распавесьці ім пра правы чалавека й сацыяльную абарону насельніцтва на Гарадзеншчыне. Першым трымаў слова спадар В.А.Кобрын. Васіль Аляксеевіч узначальвае Савет прафсаюзаў вобласьці, і яму як нікому іншаму вядомы тыя праблемы, з якімі штодня сустракаецца звычайны чалавек.

З выступу спадара Кобрына журналістам сталі вядомыя звычайныя, будзённыя факты накшталт таго, што сёньня працоўны чалавек найменш абаронены законам (а калі, нават пры адпаведных законах, гэты ж чалавек быў абаронены законам ад капрызу начальства?). Менавіта па дзеючых законах працоўнаму застаецца толькі адно права: адваёўваць свае правы праз суд. Ня ведаю чаму, але адзіным істотным сродкам супраць сваволу адміністрацыі лідар прафсаюзаў бачыць новыя калектыўныя дагаворы адміністрацыі й працоўнага калектыву. Прыводзіліся разнастайныя лічбы па колькасьці безпрацоўных. Казалася пра мэрапрыемствы, што праводзяць афіцыйныя прафсаюзы па зьніжэньню безпрацоўя ў вобласьці. Уразіла лічба 3000 - менавіта столькі чалавек зьвярнулася ў суд па прычыне таго, што, на іх думку, яны былі звольнены з працы безпадстаўна. Але як ні спрабаваў шаноўны старшыня ўпэўніць прысутных у тым, што афіцыйныя прафсаюзы кантралююць сытуацыю, лічбы, што былі згаданыя ім жа, казалі адваротнае. У прафсаюзаў няма грошай, каб істотна дапамагчы малазабясьпечаным, адзінокім, старым. Тыя выплаты, што выдаткоўваюцца фондам сацыяльнай дапамогі - гэта кроплі ў параўнаньні з патрабаваньнямі.

Начальнік упраўленьня па працы й сацыяльнай абароне насельніцтва аблвыканкаму В.Г.Рыбачонак у сваім выступе кранууўся праблемы працаўладкаваньня моладзі, заробку й перакваліфікацыі. Дзякуючы яго выступленьню стала вядома, што большасьць безпрацоўных складаюць жанчыны, сярод якіх больш 33% з сярэдняй-спэцыяльнай і вышэйшай адукацыяй. Заробак у жыхароў Гарадзеншчыны, як высьветлілася, ніжэй у параўнаньні з іншымі вабласьцямі рэспублікі. У рабочых ён складаў у траўні 399,7 тысячы рублёў, у калгасьнікаў - 299 тысяч. Лідарам па аплаце працы ў Горадні зьяўляюцца супрацоўнікі банкаў, страхавых кампаній і фінансава-крэдытнага ўпраўленьня. Іх сярэдні заробак у траўні вагаўся ў памерах 826 тысячаў. Выключным лідарам па заробку ў Горадні зьяўляецца "Комплекс" банк - 1 мільён 620 тысячаў. Неблагія заробкі ў рабочых КБМ, ЖБК, аб'яднаньня "Гроднаэнэрга", шклозавода - яны прыблізна ў 2 разы вышэй, чым на іншых прадпрыемствах. Толькі 150 тысячаў складае заробак на заводзе "Лідсельмаш", аб'яднаньні "Сузор'е" й камбінаце надомнай працы. На жаль, такіх прадпрыемстваў на Гарадзеншчыне 47%.

Яшчэ спадар Рыбачонак згадаў, што на Гарадзеншчыне больш 11 тысячаў безпрацоўных. Найбольш іх у Горадні - 3,5 тысячы чалавек, у Воранаве - 116, Шчучыне - 261, Ваўкавыску - 498, Навагрудку - 447 чалавек. За пяць месяцаў сёлетняга года прыкладна 6 тысячам страціўшых працу прапанавана работа. Прапануецца ў такіх выпадках часовая малакваліфікаваная работа. Многія пагаджаюцца, але шмат і такіх, хто не жадае так сябе забясьпечваць. Робяць так, таму што па новаму заканадаўству маюць права на сацыяльныя выплаты, якія, дарэчы, могуць быць у памерах 2-х мінімальных заработных плат. Часьцей з гэтага скарыстоўваюць выпускнікі ПТВ і школаў.

У заключэньне трымаў слова намесьнік старшыні аддзелу па сацзабесьпячэньню аблвыканкаму Р.Р.Антановіч. Ён распавёў пра лягеры адпачынку для дзяцей, якіх у вобласьці 34. Сёлета тут падмацуюць сілы 30 тысячаў дзетак. Пазалетась на Гарадзеншчыне змаглі адпачыць 55 тысяч дзяцей. Рыгор Рыгоравіч засяродзіў увагу на тым факце, што ў вобласьці існуе шэраг лягераў, якія месьцяцца на тэрыторыі былых вайсковых базаў. На першы погляд, справа не благая. Але, як зазначыў прамоўца, там ніхто не праводзіў дэзактывацыі й іншых неабходных мэрапрыемстваў. Таму такі мэтад аздараўленьня ня мае пэрспэктывы.

Гэта фактычна і ўсё, калі б не адзін момант, якога нельга абмінуць. Аднекуль у залe зьявіўся Сяргей Сяргеевіч Лугаўскі. Ён прагна патрабаваў слова. Атрымаўшы дазвол ад вядучага, прадставіўся, што ён прэзэнтуе ў Горадні нейкую новую сусьветную партыю камуністых "ЦК КПСС". Распаўсюджваў улёткі з праграмай гэтай партыі. Абяцаў пасадзіць у турму разам з сябрамі аднаго з намесьнікаў "Гродзенскай праўды". Быў бы гонар у арганізатараў канфэрэнцыі, яны б у момант навялі б парадак. Аднак такога не адбылося, арганізатары з задавальненьнем запісвалі адрас штаб-кватэры новай "ЦК КПСС" і ўважліва слухалі Сяргея Сяргеевіча.

**Г.АСТРОЎСКІ.**







# ПРЫВАТНАЯ ВЫСТАВА КАВАЛЯ Ю.МАЦКО

Крыжы на базыльянскім кляштары, краты на вокнах кавярні "Анфілада", флюгеры, лесьвічная агароджа, парапет у гатэлі "Беласток"... Мала каму вядома, што гэтыя рэчы выраблены адным і тым жа чалавекам, кавалём Юрасём Мацко. 9 ліпеня ў гарадзенскай галерэі мастацтваў "У майстра" адчынілася першая выстава яго твораў мастацкага кавальства ў спалучэньні з калекцыяй драўлянай скульптуры Афрыкі.

Разнастайнасьць кампазыцыйных рашэньняў, тэхнікі, манеры выкананьня дае ўяўленьне аб тым, што такое мастацкае кавальства, якія яго магчымасьці.

Ю.Мацко - архітэктар па адукацыі, скончыў Беларускі палітэхнічны інстытут. Чатыры гады працаваў архітэктарам-рэстаўратарам, зрабіў у той час шэраг праэктаў для аднаўленьня першапачатковага выгляду будынкаў Горадні. Але тады гэта не заахвочвалася, і ніхто не жадаў увасабляць іх у жыцьцё. Ю.Мацко ня мог гэтага вытрымаць, і з 1990-га года пачаў прафэсійна займацца кавальствам (першая спроба была яшчэ падчас вучобы ў інстытуце). Перачытаў шмат літаратуры, самаадукаваўся, сам шукаў заказы й мэтадам спроб і памылак дайшоў да таго, на што зараз здольны. А зроблена ім шмат - акрамя вышэй памянёных рэчаў, гэта шыльда й краты галерэі "У майстра", агароджа, краты, ліхтар, шыльда, брама "Зямля пад белымі крыламі" Дома рамёстваў, шыльда на краме "Лілея", што на вуліцы Савецкай, і шэраг іншых работ на адрэстаўраваных аб'ектах як у інтэр'еры, так і ў экстэр'еры.

Зараз Ю.Мацко мае ўласную майстэрню "Крыга", ёсьць у яго вучні й памочнікі. Ён займаецца рэстаўраваньнем будынкаў, а таксама аздабленьнем прыватных катэджаў і крамаў.

Застаецца назваць адрас, дзе знаходзіцца выстава: Горадня, вуліца Кірава,8, галерэя мастацтваў "У майстра". Працуе яна да 26 ліпеня.

**А.ДУК.**
**Фатаграфаваў В.ГАРОШКА.**

# ПОМНІК АДАМУ МІЦКЕВІЧУ АДЛІТЫ Ў ГОРАДНІ

Гарадзенскі скульптар Салетыцкі па замове Саюза палякаў на Беларусі выканаў помнік славутаму пісьменьніку XVIII ст. Адаму Міцкевічу. Помнік ужо адліты з бронзы й днямі будзе ўстаноўлены на Радзіме пісьменьніка ў вёсцы Заосьце Баранавіцкага раёна на Берасьцейшчыне.

**Г.У.**

 



# ПА 100 ДАЛЯРАЎ З «ТАЧКІ»

**Пра аўтарэкэт на дарогах суседняй Польшчы вядома. Пра некаторыя, схаваныя ад вока звычайнага назіральніка, бакі гэтай ганебнай справы карэспандэнту "Пагоні" расказвае гарадзенскі аўтакамэрсант з трохгадовым стажам Валеры Сачкоўскі.**

Найперш скажу, што гэта не вялікія, але добра зарганізаваныя й інфармаваныя групы. Кожная з іх мае свой злачынны стыль. Па стылю вопытны аўтагоншчык можа дакладна вызначыць, з якой рэспублікі былога СССР рэкэцёры патрабавалі ад яго грошы.

**- Што гэта за групы і ў чым іх асаблівы стыль?**

- Гады тры таму, калі з Нямеччыны, Галяндыі, Бэльгіі камэрсанты распачалі пераганяць легкавікі да краін былога СССР, найбольш часта шчыравалі на дарогах Польшчы летувісы. Іх было лёгка распазнаць па акцэнту, стылю адзеньня. Ведаеце, у гэтых групах прысутнічаў, я б сказаў, своеасаблівы прыбалтыйскі шарм. Расейскіх рэкэцёраў вылучала нейкая слявая манера. Напрыклад: "Мужик, гони бабки, по 100 баксов с тачки. Не то худо будет." Украінцы, а дзейнічалі яны ў асноўным у паўднёвым напрамку Польшчы, вылучаліся сваёй "хахляцкай" скваппасьцю. Калі расейцы безапэляцыйна называлі суму, то гэтыя аглядалі легкавікі й па кожным паасобку вызначалі кошт пабору. Яшчэ яны любілі прыхапіць з сабой штонебудзь карыснае: запаснае кола, запчастку ці што яшчэ кольвечы трапіўшае ім пад рукі. Усё гэта было на першым этапе, калі я распачаў займацца аўтабізнэсам. Зараз сытуацыя значна зьмянілася. На жаль, ня ў лепшы бок.

**- Чым гэта можна патлумачыць?**

- Прававы вакум, што тычыцца нашых грамадзян на тэрыторыі іншых краін. Паверце, на ўзроўні ўраду няма аніякіх пагадненьняў, каб нас, аўтагоншчыкаў ці людзей іншай формы камэрцыі аберагалі ў замежжы. Робіцца крыўдна за тое, што тых, хто, страціўшы працу ў сваёй краіне, самастойна вырашае праблемы свайго існаваньня й існаваньня сваёй сям'і, да таго ж, яшчэ дапамагае дзяржаве ў выглядзе выплаты разнастайных мытных падаткаў, на самым высокім чыноўніцкім узроўні клічуць спэкулянтамі. Адсюль і віток беззаконнасьці. Але чакаць нейкіх зрухаў на нашу карысьць ад ураду не прыходзіцца. Наадварот, як я казаў вышэй, працаваць "аўтагоншчыкам" робіцца складаней.

**- Чаму?**

- Некалі першыя легкавікі, фурганеткі купляліся за сымбалічную плату на аўтасьметніках Эўропы. Гэты злом і прыбытак ад пабораў на дарогах мала цікавіў сапраўдных "акулаў" крымінальнага сьвету. Але распродаж злому скончыўся. Прысьпеў час больш новых аўтамабіляў. Канешне, цана на іх узрасла значна.

**- Калі ласка, параўнайце цэны.**

- У 1992 годзе без турботаў у Нямеччыне можна было набыць легкавік за 500, 600, 800 дойчмарак. Сёлета цана сягнула да некалькіх тысячаў за БМВ, "Мэрсэдэсы", "Аўдзі", якім па 8-10 гадоў. Зразумела, што ў гэтай галіне аўтабізнэсу абарочваецца не адзін мільён "зялёных". Вось чаму "босы" злачыннага сьвету імкнуцца сюды. Яны сьпяшаюць завалодаць прыбытковымі шляхамі. Наўзамен рэкэціру з маньціроўкай і газавым пісталетам зьявіўся выдатна ўзброены дасьведчаны бандыт. У яго ёсьць усё: рацыя, аўтамат Калашнікава, узрывчатка, сувязі. Ён нічога не баіцца. Дзейнічае жорстка й нахабна. Калі ты не жадаеш працаваць на яго, ён ня будзе трэсьці той жа маньціроўкай як аргумэнтам сілы. Аднойчы можа здарыцца так, што, не даехаўшы мяжы, ты ўзьляціш на паветра ці на крутым павароце не спрацуюць тармазы.

**- Як да гэтага ставяцца польскія дарожныя міліцыянты?**

- Мне здаецца, што яны даўно ў змове з гэтым злачынным сындыкатам. Атрымліваюць сваю долю й маўчаць. Калі трэба - рабуюць самі.

**- Няўжо ўсё так змрочна?**

- І нават занадта. Днямі мы з сябрамі пераганялі з Нямеччыны да Расеі пяць легкавікоў "Аўдзі". Дарогі нам добра знаныя. Усе небясьпечныя месцы мы аб'яжджалі прасёлкамі. Але бліз Уроцлава нас запынілі на пастарунку дарожныя міліцыянты. Праверылі ўсе нашы паперы, вызначылі куды едзем і гэтак далей. Імкнучыся заблытаць свае шляхі, мы вырашылі трапіць на Беларусь праз Гайнаўку. Менавіта ў Белавежскай пушчы нас затрымалі рэкэціры. Спагналі з кожнай машыны па 150 даляраў ЗША. Я асьмялеў і спытаў, як яны нас вылічылі. Адзін з рэкэціраў, відаць, кіраўнік групы, насьмешліва згадаў, што па сігналу яны нас "вялі" аж ад Уроцлава. Як кажуць, камэнтары тут залішнія. Фактаў таго, што польскія міліцыянты карысьліва кантактуюць з крымінальнікамі, якія атабарыліся на тэрыторыі Польшчы, мноства. Спытайце таго, хто некалькі разоў езьдзіў у замежжа на легкавіку.

**- Няўжо толькі нашых рабуюць? Шмат жа легкавікоў да нас у Горадню прыганяюць тыя ж палякі, немцы?**

- Яны - іншая справа. У іх адпаведныя нумары на машынах, пашпарты, начуюць гэтыя хлопцы ў кэмпінгах - паспрабуй вылічы, з якой мэтай яны едуць. Можа, проста падарожнічаюць. Зачапі іх, пойдуць да консула - міжнародны скандал. Хаця хто яго ведае? Кажуць, што тых, хто стала перасякае мяжу, неяк вылічваюць і рабуюць на нашым беларускім баку. Як бачыце, усім нялёгка. Асабліва нам, транзытным "аўтагоншчыкам", з пашпарту якіх, убачыўшы серп і молат побач з літарамі "СССР", кпліва ўсьміхаюцца мытнікі эўрапэйскіх дзяржаваў.

# ГУЧЫЦЬ СЛОВА БЕЛАРУСКАЕ

У другой дэкадзе чэрвеня ў Салечніках адбылося адкрыцьцё Беларускага культурнага цэнтру.

Адным з найважнейшых момантаў гэтай падзеі была падрыхтоўка памяшканьня. Творы мастакоў-беларусаў Летувы Станіслава Зяленкі, Андрэя Балаховіча й іншых аздобілі сьцены будынку. У цэнтры экспазыцыі партрэт гонару беларусаў - сьвятой Эфрасіньні Полацкай.

Чырвоную стужку на адкрыцьці перарэзалі пасол Беларусі ў Летуве Пётр Вайтовіч і кіраўнік раёна Тадэвуш Міцкевіч. Айцец Канстанцін асьвяціў памяшканьне й сьцяг Беларускага культурнага цэнтру. Ён выказаў глыбокі роздум і павагу да культуры Беларусі й да аднаго з найвялікшых яе прастаўнікоў у Летуве Францыска Скарыны. Сьвятар падараваў цэнтру Біблію, з якой распачаў сваю друкарскую й асьветніцкую дзейнасьць першадрукар. Пасьля малітвы сьвяты айцец уручыў кіраўніку цэнтру Пятру Малафею й старшыні Таварыства Беларусаў раёна Мікалаю Амялевічу Першы статут Вялікага Княства Літоўскага на старажытнай беларускай мове.

Усе гэтыя прыклады сьведчаць аб глыбокіх культурных каранях беларусаў на Віленшчыне й на Летуве ўвогуле. Тут старадаўнія жылі прадстаўнікі розных нацыянальнасьцяў. Таму Вільню можна назваць сапраўдным культурным Вавілёнам, горадам мноства моў й народаў.

Значнасьць гэтай падзеі падкрэсліла прысутнасьць на адкрыцьці такіх вядомых на Беларусі й Летуве людзей, як старшыні сойму РЛ Чэславаса Юршэнаса, міністра замежных спраў РБ Пятра Краўчанкі, часовага паверанага Летувы ў Беларусі Альфонсаса Аўгуліса, кіраўнікоў Гарадзенскага аблвыканкаму й Воранаўскага раёну, старшыні Аб'яднаньня беларусаў у Летуве Дуж-Душаўскага, старшыні згуртаваньня беларусаў сьвету Ганны Сурмач, сябра Сойму РЛ Збігнева Семяновіча, старшыні раённага Савету Мар'яна Сімановіча, прадстаўнікоў палітычных партый і грамадзкіх аб'яднаньняў раёну, у тым ліку старшыні ЛДПП В.Ведрыкаса, старшыні аддзелу Саюза палякаў на Летуве З.Палевіча й іншых.

У сваёй прамове старшыня Сойму РЛ Ч.Юршэнас адзначыў, што адкрыцьцё Беларускага культурнага цэнтру мае вялікае значэньне для ўсёй Летувы й сьведчыць, што малыя народы могуць разьвівацца і памнажаць свае культурныя вартасьці, захоўваць свае духоўныя каштоўнасьці. Ч.Юршэнас выказаў упэўненасьць у тым, што ў Беларусі хутка таксама адчыніцца Летувіскі культурны цэнтр і будзе больш увагі да інтарэсаў абодвух народаў.

Пётр Краўчанка, міністр замежных спраў РБ, сардэчна падзякаваў прэзідэнта Летувы, летувіскі народ за клопат аб нацыянальных меншасьцях і зачытаў прывітаньне прэм'ер-міністра Беларусі В.Кебіча.

Усіх прысутных з нагоды гэтага важкага здарэньня павіншаваў старшыня Воранаўскага райвыканкаму Й.Сульжыцкі. З цёплымі словамі падзякі выступіла Г.Сурмач, кіраўнік аддзелу гарадзенскага аблвыканкаму А.Райко ды іншыя.

Госьці прывезьлі шмат падарункаў: кнігі, энцыкляпэдыі, рознакаляровыя прашпэкты. Трэба згадзіцца, што закладзены добры падмурак для духоўнага жыцьця й асьветніцкай дзейнасьці.

Сапраўднай нечаканасьцю для ўсіх было выступленьне дзяцей дашкольнай групы. Яны вельмі ладна дэклямавалі беларускія вершы. Калі дзеці гавораць на беларускай мове, значыцца, беларуская культура мае будучыню.

На заканчэньне ўрачыстасьцяў адбыўся канцэрт ансамбля народных сьпеваў і танцаў "Тэрніца" з Менску. Ён зьяўляецца ляўрэатам шматлікіх міжнародных конкурсаў. "Тэрніца" выступала з такім вялікім запалам, што гледачы неадноўчы віталі майстроў воклікамі "брава". Апасьля канцэрту выканаўцы сказалі, што сьпявалі на такім вялікім уздыме менавіта таму, што сэрцамі адчувалі цяплыню залы, яе вельмі цёплую рэакцыю, а гэта - найлепшы падарунак артыстам.

Знамянальная падзея стала магчымай дзякуючы плённым намаганьням мноства людзей. Найвялікшы ўклад у стварэньне Беларускага культурнага цэнтру ўнёс П.Малафей. Па яго задуме, у цэнтры хутка будзе заснавана "Кніга падзякаў", куды будуць упісвацца імёны сяброў цэнтру, якія ўнясуць вялікі ўклад у яго дзейнасьць. Імя Пятра Малафея, здаецца, павінна быць упісана ў гэтую кнігу першым.

Кажуць, што добры пачатак - палова справы. Пачатак жыцьця Беларускага культурнага цэнтру дае надзею на яго доўгае й дзейснае існаваньне дзеля ўмацаваньня сяброўства паміж людзьмі, дзеля разьвіцьця беларускай культуры.

**В.ГАРОШКА.**

# ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

У Сэйме Летувы па ініцыятыве фракцыі сацыял-дэмакратаў створана летувіска-беларуская парлямэнцкая група. У яе ўвайшлі пяць членаў Сацыял-дэмакратычнай фракцыі й тры члены фракцыі Дэмакратычнай партыі Летувы. Група будзе імкнуцца да нармалізацыі адносін паміж дзьвюма краінамі, правядзеньня канструктыўнага дыялогу. Аднавіць добрыя сувязі асабліва важна зараз, калі зьявіліся разнагалосьсі паміж Летувой і Беларусьсю адносна мяжы.

У Сэйме Летувы ўжо дзейнічаюць парлямэнцкія групы, якія падтрымліваюць сувязі з Велікабрытаніяй, Польшчай, Францыяй, Тыбетам, Чачнёй.

* * *

З 1 ліпеня бягучага года алкагольныя напоі й тытунёвыя вырабы аўтамабільным транзітам праз Летуву правозіцца толькі пад аховай паліцыі. Выключэньні магчымыя ў тых выпадках, калі гэтыя тавары транспартуюцца з кніжкай CARNET TIR з запісам "TOBACCO ALCOHOL".

Раней перавозчыкі алкаголю й тытунёвых вырабаў маглі выбраць: везьці груз транзітам, плаціць задатак альбо прадставіць гарантыі.

Пад паліцэйскай аховай транзітам перавозяцца каляровыя мэталы й іх сплавы, як і было дагэтуль.

* * *

Жыхары Летувы давяраюць нацыянальнай валюце. Аб гэтым сьведчыць той факт, што ў апошнія месяцы істотна павялічыліся сумы, якія ў выглядзе дэпазытаў аселі ў банках краіны. Толькі за адзін месяц - красавік бягучага года - сума дэпазытных укладаў у банках краіны ўзрасла на 77,7 мільёна літаў, а з пачатку года - на 271,5 мільёна.

* * *

У Віленскім палацы канцэртаў і спорта была арганізавана міжнародная выстава "Рамонт і санітарыя - 94". Яе наведалі тысячы віленчукоў і гасьцей сталіцы, якіх цікавіць тое, як пабудаваць дом, добраўпарадкаваць яго, наблізіць да эўрапэйскага ўзроўню. Сваю прадукцыю й праэкты на выставе прадставілі каля 70 фірмаў з краін Балтыі, Нямеччыны, сумесных фірмаў Летувы й іншых краін.

* * *

Міністэрства фінансаў Летувы ў бягучым месяцы выпусціла першыя аблігацыі дзяржаўнага кароткатэрміновага (трохмесячнага) займу. Яны нематэрыяльнай формы, намінальны кошт іх складае 100 літаў (каля 25 $). Скупка аблігацый і выплата вызначаных працэнтаў за іх гарантуецца дзяржаўнымі сродкамі й маёмасьцю.

Мэта выпуску каштоўных папер - часовае пакрыцьцё дэфіцыта дзяржбюджэта. На бягучы год зацьверджаны дэфіцыт бюджэта ў памеры 163 мільёнаў літаў.

**МГ**

# ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

Каталіцкі касьцёл Польшчы ўсебакова падтрымлівае захады Папы Рымскага Іаана Паўла II па забароне абортаў. Касьцёл за тое, каб аборты былі забаронены адпаведным законам на дзяржаўным узроўні.

* * *

Ля брамы Люблінскага аўтамабільнага заводу "Жук" 11 ліпеня адбылася ўрачыстая акцыя ўшанаваньня першых страйкаў, зарганізаваных мясцовай Салідарнасьцю. Як зазначыў падчас сьвятой імшы ў касьцёле «Татары» лідар тагачаснага люблінскага аддзелу "Салідарнасьць" Мар'ян Шчаклеўскі, ліпень 80-х стаў пунктам адліку народнай барацьбы супраць таталітарызму. Сёньняшнія надзеі на зямлі польскай даюць добрыя падставы для ўпэўненасьці, што камунізму ў Польшчы няма будучыні.

* * *

"Камень вэнгэльны" заложаны ўдзельнікамі Арміі Краёвай у Беластоку. Менавіта ён павінен быць падмуркам для будучага помніка жаўнерам АК, загінуўшым падчас баявых дзеяньняў на Беласточчыне.. З гэтай нагоды беларусы Беласточчыны рыхтуюць акцыю, каб сабраць сродкі на ўзьвядзеньне помніка ахвярам тэрору Арміі Краёвай на ўсходніх абшарах Польшчы.

* * *

Бліз Кельцаў адбыўся 21 фэстываль польскай "харцэрскай" песьні. У фэстывалі ўзялі ўдзел 20 самадзейных ансамбляў, 33 салісты, 16 артыстаў сатырычнага жанру.

* * *

32 дні працягваецца страйк васьмі мэталюргаў домны Люкінэ. На жаль, адміністрацыя домны не пагаджаецца на ўмовы страйкаўцаў. Як вызначылася, пагадзіцца з умовамі мэталюргаў адміністрацыя домны Люкінэ ня можа з-за негатыўнага стаўленьня да страйку сваіх італьянскіх партнэраў.

* * *

З 15 ліпеня ў горных раёнах Польшчы ўсім сродкам транспарту неабходна рухацца з запаленым бліжнім сьвятлом. Перасьцярога, на думку дарожных міліцыянтаў, найперш павінна панізіць аварыйнасьць прыватных транзітных аўтамашын, якіх безьліч на дарогах Польшчы й якія часта не адпавядаюць тэхнічным патрабаваньням.

 





# ПРАДАЛІ З ДУШАМІ

"Дорогие земляки, гродненцы! К вам обращается бывший протодиакон Гродненского Кафедрального Святопокровского Собора Евгений Андронов."

Гэта радкі з ліста, які асабіста прынёс да рэдакцыі "Пагоні" спадар Андронаў.

"Страшно писать в газете, но горе моё ещё страшней. 15 лет я верой и правдой служил Белорусской православной церкви. За этот срок службы получил все, какие только причитаются протодиакону за верную службу, церковные награды. Все 15 лет я ютился по церковным домишкам. Последним моим жилищем была половина домика в Гродно по проспекту Космонавтов, купленная по решению церковного совета для моей семьи, состоящей и з 4-х человек. Именно эта половина неблагоустроенного жилья и стала предметом меркантильных интересов Архиепископа Валентина и его преспешников. Задумав забрать себе половину домика, Архиепископ Валентин лишил меня сана с запретом на профессию."

Так распавядаюць далейшыя радкі ліста. Атрымаўшы на рукі такі ліст, я паспрабаваў найперш распытаць аб усім Уладыку Філярэта, які, дарэчы, яшчэ й хросны бацька 14-гадовага Кірыла - сына пратадзіякана Андронава. Званок да рэзідэнцыі Ўладыкі Філярэта ў Менску істотна нічога ня высьветліў. Уладыка паспачуваў і ў дадатак згадаў, што яму не пажадана ўмешвацца зараз, бо ў справе ўсю замешаныя суды й многае іншае. Але ўсёткі абяцаў пацікавіцца справай падчас свайго побыту на сьвяткаваньні двухгадовага юбілею Базыльянскага кляштару ў Горадні. У астатнім прасіў зьвяртацца да яго сакратара ў Горадні айца Яўгена Яблонскага. Візыт да настаяцеля Пакроўскага Сабору айца Яўгена ня шмат даў, але вызначыў, што дом прададзены прыватнай асобе. Справай гэтай займалася бухгалтарка Сабору Вера Васільеўна Сакаўчук.

Размова з Верай Вісільеўнай напачатку не складвалася. Але нарэшце яна разгаварылася й расказала, што дом прададзены за пэўную суму (якую, пакуль нам яшчэ невядома). На пытаньне, ці ёсьць рашэньне царкоўнага савету для таго, каб гэты дом быў прададзены, адказ быў такі: "Яно не патрэбна, ёсьць рашэньне трох чалавек" (якіх, зноўку невядома). Да таго ж спадарыня Сакаўчук ня без іроніі дадала, што пакладзе ўсе сілы, каб высяліць з хаты сям'ю Андронавых. Слухаючы заявы бухгалтара Сабору, думалася, што ў царкоўную сьвятую справу ўмяшаўся сам бес.

Сустрэча на ўрачыстасьцях у Горадні з Уладыкай Філярэтам яшчэ болей упэўніла, што нешта тут ня так. Да таго ж, Андронавы ўжо выйгралі па сваю карысьць два суды, па якіх, як кажуць, іх цягалі па волі царквы. Выслухаўшы мяне ў другі раз, Уладыка Філярэт абяцаў разабрацца. Казаў, што пры ўмове, калі да яго зьвернецца сам пратадзіякан Яўген, ён будзе садзейнічаць.

Пакуль Уладыка Філярэт думаў, Андронавы атрымалі павесткі на трэці суд. Першае паседжаньне суда адбылося пад старшынствам народнага суддзі спадарыні Лугінінай. Па прапанове суддзі Андронавы выступілі з сустрэчным судовым іскам. А пакуль рыхтаваўся сустрэчны судовы іск, ад Уладыкі Філярэта прыйшла тэлеграма з прапановай забраць з суда справу й заставіць сям'ю Яўгена Андронава ў спакоі.

Як ня дзіўна, але тэлеграма апынулася ў руках Веры Васільеўны і, па яе словах, перададзена адвакату. Вось так выконваюцца ў Горадні загады Ўладыкі Філярэта.

Цяжка сказаць, чым скончыцца трэці суд для сям'і Андронавых, але ўжо зараз можна канстатаваць факт асабістых амбіцый і капрызаў некаторых служачых, дарэчы, бяз чыну, праваслаўнай царквы ў Горадні. Больш як цынічнай амбіцыяй нельга назваць продаж дому царкоўным саветам. Як вядома, аб'ект судовага разьбіральніцтва ня можа быць аб'ектам куплі-продажу. На жаль, у Горадні зрабілі наадварот. Зьдзейсьнілі ў праваслаўнай царкве й зацьвердзілі ў натарыуса. Цікава, чаму ва ўстанове, дзе найперш павінен паважацца закон, не разабраўшыся, адразу, замацоўваюць сваёй пячаткай і подпісам факт куплі-продажу дома, па якому яшчэ няма рашэньня суда?

Падчас службы ў гонар двухгадовага юбілею жаночага праваслаўнага кляштару ў Горадні да мяне падыходзілі вернікі. Фактычна ўсе яны спачуваюць сям'і Андронавых. Абяцалі ісьці на суд і сьведчыць на яе карысьць. А адна верніца нават прасіла перадаць пратадзіякану, што ён таленавіты сьвятар і што яго меса - ў царкве. Пажаданьне выканана, але не прынята самім пратадзіяканам.

Чым завершыцца трэці суд праваслаўнай царквы на Гарадзеншчыне для сям'і Андронавых, чытайце ў бліжэйшых нумарах "Пагоні".

Г.АСТРОЎСКІ.

# ФЭСТ, ЯКОМУ НАКАНАВАНА БЫЦЬ ТРАДЫЦЫЙНЫМ

Зала Базыльянскага кляштару Горадні, дзе адбывалася ўрачыстая імпа, прысьвечаная двухгоддзю перадачы мясцовымі ўладамі будынка праваслаўным манахіням, здавалася, зіхацела ад сьвяточнага настрою вернікаў. Хоры ў унісон сьветлай аўры выконвалі псалмы. За "Златымі вратамі" зьбіраліся сьвятары. Сярод іх пазнаю настаяцеля Базыльянскага храму айца Уладзіміра, настаяцеля Пакроўскага сабору айца Генадзя, прадстаўніка Беластоцка-Гданьскай праваслаўнай эпархіі з Польшчы архімандрыта Мірана і многіх іншых сьвятароў, што прыехалі на гэты фэст. Вось сьвятары, падзяліўшыся на два шэрагі, выходзяць да залы й гуртуюцца бліжэй да ўваходу ў храм. Тут праз некалькі хвілін у суправаджэньні сьвіты зьяўляецца ўладыка Філярэт, які спэцыяльна прыехаў з Менску, каб весьці службу. Вернікі й сьвятары вітаюць высокую духоўную асобу. Уладыка Філярэт праходзіць наперад бліжэй да іканастасу й чытае прывітальную малітву.

Пасьля малітвы да яго Высакосьці падводзяць верніка Сергія, і ўладыка высьвечвае яго на дзіякана.

Распачынаецца служба, якая доўжыцца больш дзьвух гадзінаў. Хоры пяюць здравіцы ў гонар сьвятой абіцелі, вернікі ставяць сьвечкі. Уладыка Філярэт вядзе споведзь, на якую пераважна ідуць моладзь, дзеці, матулі нясуць да споведзі немаўлят.

Кажуць, што ў такі ўрачысты дзень споведзь абавязкова дойдзе да Бога.

Ля галоўнага ўваходу зьбіраюцца ў сьвяточных строях вернікі з харугвамі. Усе рыхтуюцца да крыжнай хады. За шэрагамі з харугвамі становяцца пеўчыя, сьвятары, вернікі. Уладыка Філярэт блаславіўляе працэсію, і яна распачынае ход. Шэсьце рухаецца ўздоўж кляштара й наноў спыняецца ля галоўнага ўваходу. Уладыка чытае малітву й асьвяшчае старажытныя муры. Слова ў адказ бярэ настаяцельніца кляштара Матушка Гаўрыіла. Яна дзякуе Уладыку за тую ўвагу, якую яго Высокасьць праяўляе да кляштара. Таксама Матушка прамаўляе словы падзякі да гасьцей, вернікаў. Напрыканцы прамовы Уладыку дорыць сымбалічны прэзэнт у выглядзе аздобленай праскуры. "Мір Вам"-, – лятуць над вернікамі словы Уладыкі. Улучыўшы момант, зьвяртаюся да Матушкі Гаўрыілы за камэнтарам. "Паглядзіце, сёньня працоўны дзень, а колькі людзей, і сярод іх дужа моладзі. Я веру, што наш кляштар, які знаходзіцца пад пакровам Багародзіцы, адродзіцца."

Сьвята дабягае фіналу. Разыходзяцца вернікі. Разам з імі йду і я. Пляц ля кляштару вабіць позірк чысцінёй. Дзе-нідзе віднеюцца грады, на якіх цьвіце бульба, зялянеюць буракі, фасоля, кроп. Хочацца яшчэ прыйсьці сюды, каб пачуць сьвятую імшу й натхніць душу стваральніцкай працай 11 манашак, якія за два гады зрабілі шмат добрых спраў. А галоўнае, сваім прыкладам павярнулі да Бога не адну душу.

Г.АСТРОЎСКІ.



# ПАВУЧЭНЬНЕ НА ДЗЕНЬ СЬВЯТЫХ АПОСТАЛАЎ ПЯТРА Й ПАЎЛА

Сьвятыя апосталы Пётр і Павел, памяць якіх шануе хрысьціянскі сьвет 12 ліпеня, сваім жыцьцём і пакутніцкай сьмерцю засьведчылі веру ў Госпада Ісуса Хрыста.

Сьвяты апостал Пётр, звычайны галілейскі рыбак, душой палюбіў Хрыста й падчас зямнога існаваньня свайго Настаўніка ня меў аніякіх таямніц ад Яго.

У 67 годзе па Нараджэньню Ісуса Хрыста, калі ў Рыме ўзьнікла вялікае ганеньне на хрысьціян, Пётр выказаў жаданьне прыняць сьмерць на крыжы. Перад сьмерцю ён просіць сваіх катаў, каб яго расьпялі ўніз галавою, бо сам лічыў, што ня мае права прыняць такую ж сьмерць, як і Яго Настаўнік.

Сьвяты апостал Павел, памяць якога хрысьціяне таксама шануюць, на пачатку быў ворагам хрысьціянства. Прыцясьненьні хрысьціян лічыў справай, годнай Богу. Але Гасподзь разнастайнымі цудамі пераканаў Паўла на шляху да Дамаску, куды ён ехаў, каб весьці барацьбу з хрысьціянамі. Апостал Павел зьдзейсьніў тры вялікія падарожжы ў краіны, дзе панавала паганская вера ў Бога. Пасьля расьпяцьця на крыжы апостала Пятра апосталу Паўлу зьмляне адсеклі галаву.

Чаму нас, хрысьціян, вучаць жыцьцё й дзейнасьць сьвятых апосталаў Пятра й Паўла? Найпершая высноaccess, што сіла Божая робіць з простага рыбака адукаванага прапаведніка. Перакананага ворага хрысьціян Гасподзь робіць апантаным прапаведнікам і найвялікшым працаўніком на ніве вучэньня справы Хрыстовай. Прастата волю Божай уздымаецца, гонар і нявера прыніжаюцца.

Гэта прыклад нам, звычайным хрысьціянам, у каго, бáліць душа, што ён недастаткова ўдачлівы, разумны, шчасьлівы. Толькі шлях да Бога зробіць душу ўзьнёслай, умацуе верай, Госпадам шануюцца шчырыя сэрцам і вераю.

(Э.В.)

# БІСКУП АБЯЦАЎ ДАПАМАГЧЫ

У вернікаў-каталікоў Ліды зараз вялікія праблемы. Ксёндз, які кожны тыдзень праводзіў імшу на беларускай мове, зьехаў на вучобу да Ватыкану. У выніку, вернікі апынуліся ў стане, калі стала немагчыма адпраўляць набажэнствы на роднай мове. Да біскупа Аляксандра Кашкевіча была накіравана дэпутацыя пад кіраўніцтвам Рэгіны Лапко. Біскуп Аляксандр вельмі ўважліва выслухаў дэпутацыю, паскардзіўся, што ёсьць вельмі мала ксяндзоў, якія добра ведаюць беларускую мову, й паабяцаў дапамагчы, падкрэсьліўшы, што кожны чалавек павінен мець магчымасьць спраўляць рэлігійныя абрады на сваёй роднай мове. Кожнаму сябру дэпутацыі падорана добра ілюстраваная кніжка пра Сабор Сьв. Паўла ў Рыме.

У.КРУЦІКАЎ, г.Ліда.

## АБ'ЯВА

**Кожную нядзелю а 14-ай гадзіне па адрасу: г.Ліда, вул.Суворава, 7а (памяшканьне майстэрні мастака Алены Юрыкавай) будзе праводзіцца набажэнства на беларускай мове для парафіян грэка-каталіцкай царквы.**

**Запрашаюцца ўсе жадаючыя.**

**Рада Лідзкай грэка-каталіцкай царквы.**



КУПАЛЫ ГОРАДНІ. Фатаграфаваў В.ГАРОШКА.

**Васіль РАГУЛЯ**

# УСПАМІНЫ

**(Працяг. Пачатак у NN 21,22)**

У такім напрамку вялася агітацыя, хоць і з некаторымі зьменамі ў залежнасьці ад характару тых, што зьбіраліся, ды ў залежнасьці ад агульнага настрою.

Набліжалася сьвята Пакроваў (14-га кастрычніка). Я атрымаў запіску з Нягневіч, здаецца, ад А.Орсы, з просьбаю прыехаць да іх, таму што меліся прыбыць з Варшавы паслы ад лісты N3. Пабойваючыся спаткацца са спрактыкаванымі ў парляманцкай барацьбе працўнікамі, падумаўшы, вырашыў аднак паехаць. Там я сустрэў кандыдатаў у паслы ад "Wyzwolenia", Гэльмана й Шакуна, маларазьвітых і слабых агітатараў. Яны закончылі сваё выступленьне, пры магільным маўчаньні прысутных, клічам: "Няхай жыве маршалак Пілсудзкі!" Усе глядзелі на мяне. Пасьля кароткай спрэчкі яны далі мне слова. Я забраў слова і без вялікіх цяжкасьцяў атрымаў над працўнікам поўную перамогу. Пасьля Нягневіч я ўладзіў мітынгі ў мястэчках Карэлічы, Мір, Ярэмічы, Турэц, Наваградак і другіх. Усюды я хадзіў пехатою, вымінаючы вялікія дарогі.

Характэрны быў сход ў Міры. Калі я толькі закончыў прамову, прыйшлі да мяне Гэльман і Шакун, просячы слова. Натоўп падняў крык: "Вон! Далоў!" Я зьняў сваю шапку, ды, махнуўшы ёю, крыкнуў: "Ціха!" Калі гоман супакоіўся, я сказаў: "Ня бойцеся! Дайце гаварыць. Цяпер слухайце ўсіх і майце свой розум. Гэта час агітацыі, час палітычных лекцыяў. Гавораць: сем разоў адмерай, а раз адрэж; а я вам кажу: семдзесят сем разоў адмерай, а раз адрэж!" Калі мае працўнікі закончылі клічам за Польшчу й Пілсудзкага, народ маўчаў, а толькі некалькі панкоў крыкнулі: "Niech zyje!" Пасьля майго заключнага слова наступіў узрыў бурлівых воплескаў і гучнае "ўра!"

З такім самым посьпехам праходзілі мае мітынгі і ў другіх месцах. Толькі ў Ярэмічах я сустрэў маўклівую апазыцыю. Са стаўляных пытаньняў з таго, што я ведаў раней, я выснаваў, што там нутравала моцная камуністычная плынь. Так ішла мая агітацыя. Мае сябры па лісьце альбо палахліва безьдзеялі, як у Слонімскай і Баранавіцкай акругах, або пацыху агітавалі цераз знаёмых, як у Стаўпецкай акрузе, або агітавалі без адпаведнай энэргіі й запалу, як у Нясьвіскай. Праўда, кандыдат Шаркевіч правёў некалькі мітынгаў. У другіх акругах Віленшчыны агітацыя вялася слаба, апрача Дзісьненшчыны, дзе значную энэргію выказалі кс.Адам Станкевіч і Мятла. У Піншчыне нашая агітацыя была роўная нулю. Там мы атрымалі толькі адзін мандат, і то жыдоўскімі галасамі. Ярэміч у акрузе нават і не паказаўся, а Кахановіч прыйшоў толькі раз у Наваградзкую акругу. Рэшта кандыдатаў у сэнатары і паслы ня ўладзілі ніводнага перадвыбарчага мітынгу. Думаю, што гэта было ў выніку страху перад магчымымі пазьнейшымі рэпрэсіямі. Беларуская ніва, пры наяўнасьці добрай глебы і добрага зерня, дала, па-мойму, незадавальняючы ўмалот - 11 паслоў і 3-ох сэнатараў, з якіх адзін прайшоў па дзяржаўнай лісьце. Прычыны - адсутнасьць дастатковай колькасьці сейбітаў, нявера віленскага камітэту ў посьпех, адсутнасьць энэргічнай агітацыі, з боку некаторых кандыдатаў, канкурэнцыя амбіцыяў, а, магчыма, і матэрыяльны разьлік некаторых асобаў.

У выніку толькі ў Навагрудзкай акрузе мы атрымалі з 6-ці чатыры польскія мандаты і адзін сэнатарскі. Другі сэнатарскі мандат здабылі на Віленшчыне. Ніводная з рэшты акругаў не дала больш як па два мандаты. Пры інтэнсыўнай агітацыі мы мелі б ня менш 24-ох дэпутацкіх мандатаў. Напрыклад, у Наваградзкай акрузе мы, я сказаў бы, дзякуючы нашай палітычнай неахайнасьці, аддалі 2 мандаты лісьце N3.

Каб ня быць галаслоўным, паклічуся на наступныя дадзеныя: у Наваградзкую акругу ўваходзіла 5 паветаў - Наваградзкі, Слонімскі, Нясьвіскі, Баранавіцкі й Стаўпецкі. Падалі галасоў за лісту N 16: у Наваградзкім павеце - 24.000 (лічу ў цэлых тысячах) з 29.000 выбаршчыкаў, у Нясьвіскім - 8.000, у Стаўпецкім - каля 4.000, у Слонімскім і Баранавіцкім паветах - па 3.000. Ня маю пад рукою дадзеных адносна агульнай колькасьці выбаршчыкаў у кожным з гэтых паветаў. Лічу, што Нясвіскі павет ня ўступаў Наваградзкаму. Іншыя, магчыма, як радзей заселеныя, мелі крыху менш. Найменш галасоў далі тыя паветы, дзе была слабая агітацыя, як у Слонімскім і Баранавіцкім. Гэтыя паветы, уключна з Нясьвіскім, з пераважаючым праваслаўным насельніцтвам, маглі даць мала менш галасоў, чым Наваградзкі. Мы лёгка атрымалі б на ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі ня менш 24-х пасольскіх мандатаў. Здабылі ж толькі 11. Такая акруга, як Лідзкая, у якой быў вялікі процэнт жыдоў (а жыды галасавалі дружна), разам з г.Лідаю, мястэчкам Васілішкі, Валожын, Шчучын і інш. дала толькі 2 мандаты. Апрача таго беларусы прайшлі і па польскіх лістах: Балін, Галавач, Шакун і Шапель па лісьце N 3 і Дубровнік па лісьце Пяста.

Пінская акруга была цалкам аддадзена польскім партыям. Украінцы прызналі яе беларускай і не агітавалі, а беларусы ня ткнулі туды і носа. З поўнай свабоды бесканкурэнцыйнай агітацыі скарыстала ППС і забрала ўсе 6 мандатаў. Патрабавалася невялічкай натугі з нашага боку, каб павярнуць выбаршчыка да лісты N 16. Настроенае радыкальна і русафільска насельніцтва аддало б свае галасы за Блёк. Бяз нашай агітацыі яно паверыла, што, галасуючы за Блёк, яна галасуе за нямецкіх і жыдоўскіх буржуяў.

Дзе ж прычына нашага ў сапраўднасьці выбарчага паражэньня? У народзе? Не! У кіраўніцтве выбарамі? Так! Сябры Цэнтральнага Выбарчага Камітэту ў Вільні ня былі самы ўпэўнены ў посьпех прадпрыемства, былі апанаваны польскім тэрорам і пагоняю за мандатамі. Гэта, па-мойму, і было прычынаю слабой актыўнасьці адных ды амаль поўнай адсутнасьцю яе ў другіх. Кахановіч і Аўсянік увесь час аддавалі на малітвы Бахусу; Ярэміч быў заняты дыпляматычнымі перагаворамі з немцамі і жыдамі ў Варшаве. Ён заняў тры пэўныя нашыя месцы: першае ў Піншчыне, першае ў Наваградчыне і 7-ае на дзяржаўнай лісьце. Кахановіч - другое ў Наваградчыне і 16-ае на дзяржаўнай лісьце. Ярэміч прыняў мандат у Піншчыне, а наш мандат па Наваградчыне перапаў жыду Стучынскаму, а па дзяржаўнай лісьце - немцу ці жыду, што стаяў на 8-ым месцы. Такім чынам, апрача пінскіх мандатаў, мы страцілі 2 мандаты дзяржаўнай лісты - 7-мы па Ярэмічу і 16-ты па Кахановічу, і адзін мандат па Ярэмічу ў Наваградзкай акрузе. Думаю, што гэта быў частковы вынік бесталковай пагоні Ярэміча і Кахановіча за мандатамі, а, магчыма, кампэнсацыяй немцам і жыдам за фінансаваньне. Гэта ведама Ярэмічу і, думаю, другім сябрам Цэнтральнага Камітэту. Дайшло да таго, што за першае месца па Лідчыне спрачаліся Рак-Міхайлоўскі і Аўсянік. Яго заняў, аднак, Рак-Міхайлоўскі. Як справа выглядала ў другіх акругах - мне ня ведама.

## ХАРАКТАРЫСТЫКА ПАСЛОЎ І СЭНАТАРАЎ

З якім жа палітычным багажом мы ўвайшлі ў польскі Сойм? Усе беларускія паслы й сэнатары былі беларусамі ня толькі па назове, але й па перакананьнях. Толькі адны вырасьлі пад уплывам польскай культуры, на Міцкевічу і Славацкім (Тарашкевіч), другія - пад уплывам расейскай, на Пушкіне і Тургеневе (Рагуля, Назарэўскі і Багдановіч), трэція былі блізкія да аднаго з гэтых напрамкаў. Наогул, усе пасьля сталі на цьвёрды незалежніцкі грунт. З тэндэнцыямі пракамуністычнымі, адчынена іх вызнаючымі, не ўвайшло ніводнага. Толькі пасьля Каліноўскага зьявіўся Валошын з камуністычным душком, але і ён да камуністаў не далучыўся.

Каротка іх можна схарактарызаваць гэтак:

1. Тарашкевіч - беларускі патрыёт, чалавек разумны, што не паддаваўся ўплывам паланафілаў. Ён, аднак, лічыў, што ўгодаю можна дабіцца ад палякаў некаторых канцэсіяў на карысьць беларускага народу. Ён меў сярод палякаў шмат сымпатыкаў.
2. Рак-Міхайлоўскі, Мятла і кс. Станкевіч - беларускія патрыёты з вялікаю мераю скрайняга нацыяналізму. Мятла і кс. Адам Міцкевіч - самыя сумленныя людзі з сялянскай псыхалёгіяй. Кс. А.Станкевіч сымпатызаваў Летуве.
3. Якавюк і Баран - беларусы. Яны доўга ў Сойме ня былі. Польскі суд засудзіў іх за шпіёнства на карысьць Летувы на 4 гады цяжкай вязьніцы. Пасьля адбыцьця кары Баран выехаў у СССР, дзе й загінуў ягоны сьлед. Якавюку пашчасьціла эміграваць у Летуву, дзе ён жыў да 2-ой сусьветнай вайны.
4. Валошын - беларус з камуністычным нахілам, сьмелы й адчайны.
5. Ю.Сабалеўскі - беларускі незалежнік. Да часу атрыманьня мандату некалькі разоў сядзеў у вязьніцы за палітыку й быў вызвалены толькі на пастанову Сойму. Гэта чалавек асьцярожны, падазраваючы і, я сказаў бы, палахлівы. Яму усё здавалася, ды і цяпер здаецца, што ўсюды за ім ганяюцца агэнты польскай дэфэнзывы і савецкага МВД.

Сэнатары:

1. В.Багдановіч - шчыры беларус расейскай культуры, чалавек сялянскай сумленнасьці, слабы палітык, энэргічны абаронца праваслаўнай царквы. Ён цешыўся сымпатыяй усіх віленчукоў, бяз розьніцы іхняе нацыянальнасьці. У сваім асяроддзі мы яго называлі сьвятым чалавекам. Вывезены бальшавікамі на ўсход.
2. А.Назарэўскі - чалавек прабеглы, беларус расейскай культуры, не рызыкаваў вострa выступаць супраць палякаў, але стараўся ладзіць з польскім элемэнтам як у Сэнаце, так і ў акрузе. Ён умела мог выкарыстоўваць слабасьці польскіх урадаўцаў. Сэнатару Багдановічу, для выступленьня з трыбуны, патрэбны былі канкурэнтныя дадзеныя адносна недаплачаных урадам сумаў з асыгнаваньняў на праваслаўную царкву. Назарэўскі запрапанаваў Клюбу выдаць да ягонае дыспазыцыі 500 злотых для атрыманьня дакладных і падрабязных дадзеных аб расходаваньні асыгнаваные сумы. Ён іх і атрымаў ад дырэктара веравызнаньняў Патоцкага. Ён, карыстаючыся знаёмствам з савецкім агэнтам у Данцыгу, нейкім Курляндзкім, перакінуў у Саветы Кахановіча. Знаёмства з немцамі дало яму пасьля магчымасьць перакінуць у Нямеччыну пасла Сабалеўскага. Шмат дарагіх, з мастацкага боку, рэчаў ён атрымаў для баранавіцкай царквы з разбуранага ў Варшаве праваслаўнага сабору.
3. Уласаў - стары, разгультаены, нічога не рабіў ні ў Клюбе, ні вонкі. Паўжартам, паўсур'ёзна ён казаў: "Усё будзе добра, толькі нічога ня трэба рабіць". Усе ягоныя пляны праводзіў у жыцьцё сакратар Клюбу Більдзюкевіч.

Паслы:

Кахановіч і Аўсянік - зацятыя паклоньнікі Бахуса, ды да таго Аўсянік - непапраўны гультай. На маю прапанову выступіць з Соймавай трыбуны, ён мне адказаў: "Усё роўна я другі раз ня буду выбраны ў Сойм".

Рагуля - да выбару ў Сойм быў русафілам, фэдэралістам з Расеяю, але не камуністычнай, дэмагог, зацяты прыхільнік дробнай сялянскай уласнасьці. Ён любіў у кампаніі выпіць, але не цярпеў тых, што зьявіліся падвыпіўшы ў Сойм. Ён лічыў, што на беларускую справу можна браць грошы адкуль атрымаецца, але не даваць за гэта ніякіх абяцаньняў. Пасьля вылучэньня Грамады, арганізаваў з Ярэмічам Сялянскі Саюз з газэтаю "Сялянская Ніва". Гэта вораг усякай партыйнай грызьні і лаянкі. Аб рэшце скажуць вось гэтыя запіскі.

## III

## ПРАЦА Ў СОЙМЕ Й СЭНАЦЕ

### ПАРТЫЙНЫ СКЛАД СОЙМУ Й СЭНАТУ

Пачну з скрайнай правай партыі:

а) Народная Дэмакратыя - эндэкі, цьвет розуму польскага народу;
б) Хрысьціянская Дэмакратыя (Хадэкі);
в) Пяст - сялянская партыя Вітаса;
г) Сялянская Партыя (Домбскага);
д) Народная Работніцкая Партыя (Попеля);
е) Вызваленьне - радыкальная сялянская партыя (Тугута);
ж) Нацыянальныя Меншасьці - беларусы, украінцы, немцы і жыды;
з) Польская Партыя Сацыялістаў і
к) Камуністы - іх было толькі двух.

### ПРЫСЯГА, ВЫБАРЫ ПРЭЗЫДЫУМА Й ПРЭЗЫДЭНТА

Першым актам была прысяга "Pracowac na dobro Rzeczypolitej jko calosci", пасьля выбары старшыні. Выбраны быў М.Ратай, кандыдат Пяста. Выбары праводзіліся на супольным паседжаньні Сойму і Сэнату - "Zgromadzeniem Narodowym".

Перад выбарамі прэзыдэнта ў нашым Клюбе выявіліся былі два погляды: устрымацца ад выбараў, падаючы белыя карткі, і ўзяць у іх удзел, галасуючы за найбольш адпаведнага для нас кандыдата. Першыя (Рагуля) гаварылі, што мы прыйшлі ў Сойм не для творчай працы і павінны заняць становішча безадказнай апазыцыі. Другія (Тарашкевіч) пярэчылі, што ня можна рваць з месца галёпам, што наш выбаршчык, які памятае прыказку: "Ласкавае цялятка дзьве маткі сьсе, а горднае - ніводнае", нас за гэта не пахваліць, што трэба спрабаваць вырваць што-небудзь ад палякаў. Меншасьць згадзілася падпарадкавацца большасьці, што і было прынята тайным галасаваньнем. Пастаноўлена прыняць удзел у выбарах.

Кандыдатамі на становішча прэзыдэнта былі высунуты: Н.Д.граф Замойскі (пазнаньскі ваявода), Вайцехоўскі - ад Пяста, інж. Нарутовіч - ад Вызваленьня, Дашынскі - ад ППС, ад Нацыянальных Меншасьцяў - былы прафэсар Пецярбурскага ўнівэрсітэту, Бодуэн дэ Куртэнэ (дэманстрацыйная кандыдатура з мэтаю падліку нашых парляманцкіх сілаў). Пасьля трох галасаваньняў засталіся два кандыдаты: Вайцехоўскі і Нарутовіч, які зараз жа прыняў выбар і склаў прысягу на вернасьць канстытуцыі.

**(Працяг будзе).**



# АПОШНЯЯ СТАРОНКА

## ТРЫ ЧВЭРЦІ ПРАЦЫ ДА ЗАВАЁВЫ

Беларуская тэнісістка Натальля Зьверава й амэрыканка Джы Джы Фэрнандэс пераможна прайшлі тры чвэрці шляху да заваёвы тэніснага трафэю для тэнісістаў-прафэсіяналаў "Вялікага шлему". Пасьля перамог на адкрытых чэмпіянатах Аўстраліі й Францыі інтэрнацыянальны дуэт дамогся перамогі на Ўімблдоне. У фінале парнага разраду Натальля і Джы Джы перамаглі другую інтэрнацыянальную пару - чэшку Яну Новатку й гішпанку Аранту Санчэс. Да атрыманьня запаветнага трафэю дзяўчатам засталося перамагчы на адкрытым чэмпіянаце ЗША.

**Г.Н.**

## ПЕРАМОГА НАД ФАВАРЫТАМ

У Славэніі праходзіць маладзёжны чэмпіянат Эўропы па баскэтболу. Зборня Беларусі, якая выступае ў групе А, дамаглася ў стартавай гульні сэнсацыйнай перамогі над гаспадарамі турніру - зборняй Славакіі - у овэртайме з лікам 98:97. Самым трапным з нашай каманды быў Руслан Байданоў, на рахунку якога 40 ачкоў.

**Г.Г.**

## КУБАК, ЯКІ ЗРОБЛЕНЫ ВА ЎЛОХАХ

У трох летувіскіх гарадах - Паланга, Мэмэль, Крэцінг - прайшоў міжнародны юнацкі турнір па футболу. Зборня Беларусі (трэнеры Валеры Завіленскі і Вячаслаў Аўтушка) была ўкамплектавана гульцамі 1978-1979 гадоў нараджэньня. Нанёсшы паражэньні зборні Летувы-2 і мэмэльскаму клюбу "Балтай", нашы хлопцы сягнулі фіналу, дзе ў карных сэрыях з лікам 2:4 прайгралі першай зборні гаспадароў турніру.

Беларуская зборня за другое месца атрымала кубак-прыгажун, які па замове Ф.Ф.Летувы спэцыяльна выраблены ва Ўлохах.

Лепшым брамнікам на турніры прызнаны наш Аляксей Рубацкі.

**Г.С.**

## ЧЭМПІЁН СТАНЕ ВЯДОМЫ Ў НЯДЗЕЛЮ

Сэнсацыйнай перамогай балгарскай зборні закончыўся матч 1/4 фіналу з камандай Нямеччыны. І хоць чэмпіёны сьвету адкрылі лік (Матэвус, з пенальці, але не далі рады ўтрымаць сваю браму на замку. Спачатку вызначыўся лепшы балгарскі фарвард Стоічкаў, а літаральна праз тры хвіліны апошнюю кропку паставіў у гэтай цікавай сустрэчы Лечкаў. Такім чынам, зборня Нямеччыны, якая не без падстаў лічылася фаварытам чэмпіянату сьвету ў ЗША, датэрмінова зышла з дыстанцыі й адправілася дамоў.

Між тым, калі глыбей прааналізаваць гульню нямецкіх футбалістаў, то нічога незвычайнага ў іх паражэньні няма. Гэтая каманда вялікаўзроставых гульцоў была толькі ценьню той магутнай "машыны" Бэкэнбауара, якая перамагла чатыры гады назад. А цяперашняму шэфу зборні Фогтсу нічога не застаецца, як падаць у адстаўку.

Цікавы матч адбыўся й паміж зборнямі Румыніі й Швэцыі. Толькі ў сэрыі карнага швэды вырвалі перамогу. Таксама ў паўфінал увайшлі каманды Італіі й Бразыліі, якія адпаведна ўзялі верх над зборнямі Гішпаніі й Галяндыі.

Калі гэты нумар "Пагоні" ужо выйдзе з друку, будуць вядомыя фіналісты чэмпіянату. Хто з кожнай з двух пар - Бразылія - Швэцыя, Італія - Балгарыя - стане пераможцам, таму й давядзецца паспрачацца 17 ліпеня за залаты Кубак ФІФА.

## НАРЭШЦЕ ФЭДЭРАЦЫЯ ЗАЦЬВЕРДЗІЛА КАЛЯНДАР

Пасьля трохтыднёвых канікулаў зноў зазьвінелі мячы на беларускіх стадыёнах. 13 ліпеня стартаваў чацьвёрты нацыянальны чэмпіянат краіны. У гэты дзень "Абутнік" прымаў "Маладзечна", а "Нёман" - бабруйскі "Шыньнік". У першай лізе, як і раней, выступяць 16 калектываў. Дзьве слабейшыя каманды па выніках спаборніцтваў пяройдуць у ніжэйшую лігу. Каляндар гульняў, які быў зацьверджаны толькі 7 ліпеня, складзены па эўрапэйскаму прынцыпу. Гэта значыць, што туры пройдуць раз на тыдзень і пераважна ў выхадныя дні, а серада вызваляецца для правядзеньня міжнародных сустрэч.

Па просьбе аматараў футболу друкуем каляндар першага круга з удзелам двух клюбаў Гарадзеншчыны - "Нёмана" й лідзкага "Абутніка".

2 тур

17 ліпеня (нядзеля). "Лакаматыў" - "Нёман".

18 ліпеня (панядзелак). КІМ - "Абутнік".

3 тур.

24 ліпеня (нядзеля). "Абутнік" - "Тарпеда" Мг

"Дынама-93" - "Нёман"

4 тур.

1 жніўня (панядзелак). "Абутнік" - "Шыньнік"

"Нёман" - КІМ

5 тур.

7 жніўня (нядзеля). "Гомсельмаш" - "Абутнік"

"Дняпро" - "Нёман".

6 тур.

21 жніўня (нядзеля). "Абутнік" - "Шахцёр".

"Гомсельмаш" - "Нёман".

7 тур.

28 жніўня (нядзеля). "Тарпеда" Мн. "Абутнік".

"Нёман" - "Дынама" Мн.

8 тур.

10 верасьня (субота). "Дынама" Мн. - "Абутнік".

11 верасьня (нядзеля). "Нёман" - "Тарпеда" Мн.

9 тур.

18 верасьня (нядзеля). "Абутнік" - "Лакаматыў".

"Маладзечна" - "Нёман".

10 тур.

25 верасьня (нядзеля). "Фандок" - "Абутнік".

"Нёман" - "Тарпеда" Мн.

11 тур.

2 кастрычніка (нядзеля). "Абутнік" - "Ведрыч".

"Шахцёр" - "Нёман".

12 тур.

16 кастрычніка (нядзеля). "Дняпро" - "Абутнік".

"Нёман" - "Ведрыч"

13 тур.

23 кастрычніка (нядзеля). "Абутнік" - "Нёман".

14 тур.

30 кастрычніка (нядзеля). "Дынама" Бр - "Абутнік"

"Фандок" - "Нёман".

15 тур

5 лістапада (субота). "Дынама-93" - "Абутнік"

6 лістапада (нядзеля). "Нёман" - "Дынама" Бр.

## ІГАР АСТАПКОВІЧ ПАСПРАЧАЕЦЦА ЗА ЗАЛАТЫ МЭДАЛЬ

Футбол у апошні месяц, і гэта не выпадкова, стаў у цэнтры ўвагі аматараў спорту. Аднак за гэты час прайшло нямала цікавых спаборніцтваў, асабліва ў легкаатлетаў. Так, у Жэневе на турніры сэрыі "Гран-пры" сабраліся, бадай, усе "зоркі" лёгкай атлетыкі. І калі на дыстанцыі 100 мэтраў з фэнамэнальным вынікам 9,85 секунды першынстваваў новы рэкардсмэн сьвету амэрыканец Лерой Барэл, то ў сэктары для кіданьня молату не было роўных гарадзенцу Ігару Астапковічу. Яго молат паляцеў на 79 мэтраў 92 сантымэтры. Ігар Астапковіч таксама пераможца на спаборніцтвах у аўстрыйскім горадзе Лінцы - 80 мэтраў 72 сантымэтры. Зараз наш зямляк рыхтуецца да эўрапэйскага чэмпіянату, які адбудзецца ў Хельсінкі ў жніўні гэтага года.

**Г.ВАСІЛЕВІЧ.**

## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

За апошні тыдзень на Гарадзеншчыне зарэгістравана 131 злачынства і 52 здарэньні. У іх ліку 2 забойствы, 16 цялесных пашкоджаньняў, 2 рабаваньні й столькі ж хуліганстваў, 85 крадзяжоў дзяржаўнай і асабістай маёмасьці. Працягвае расьці колькасьць ахвяр на вадзе. Толькі за два тыдні патанула 28 чалавек.

У 15 дарожных здарэньнях 2 чалавекі загінулі і 19 паранена. Яшчэ адзін чалавек стаў ахвярай агню.

АЗС НА ДАРОЗЕ

Грамадзяне, якім давялося спадарожнічаць па шашы ў Маскоўскім напрамку, маглі назіраць вялікую колькасьць бэнзавозаў, якія прапаноўваюць жадаючым рознае паліва. Але гэта ў Расеі, дзе паліва багата.

Нешта падобнае назіралі міліцыянты раніцой у сераду ў Бераставіцкім раёне. Але вядома ж, у меншым маштабе.

У якасьці "бэнзавозаў" таксама на "міжнароднай" трасе Пагранічны-Ваўкавыск паўсталі двое трактарыстаў калгаса "Талькаўцы", якія меліся гандлянуць на валюту скрадзенымі з калгасных трактароў 250 літрамі дызэльнага паліва. Гандаль быў спынены, "АЗС" - зачынена.

Але, як кажуць, сьвятое месца пустым не бывае.

Калі вечарам таго ж дня міліцыянты зноў наведалі бойкую шашу, то са зьдзіўленьнем заўважылі, што "АЗС" усё ж працавала. Аказваецца, няшчасьліўцаў зьмяніў на гандлёвым шляху іх калега з гэтай жа гаспадаркі, які выставіў на продаж 100 літраў "зэканомленага" паліва.

НА ГОРКІ ЯБЛЫК

Менавіта так можна ахарактарызаваць зьбітае цела 35-гадовага рабочага слонімскага народнага прадпрыемства "Альберцін".

Пералом заснаваньня чэрапа й костак носа, траўма палавых ворганаў, траўматычны шок - з такімі цяжкімі цялеснымі пашкоджаньнямі ён быў дастаўлены глыбокай ноччу ў мясцовую бальніцу, дзе праз 5 гадзін памёр.

Як потым аказалася, гэткім жорсткім чынам зьбілі земляка двое больш маладых слонімцаў на кватэры ў грамадзянкі С.

ТЭХНІКА НЕ ВЫТРЫМАЛА ?

Раніцай у суботу ў доме жыхара в.Ласосна С. узарваўся тэлевізар "Гарызонт-280" чорна-белага адлюстраваньня. У доме задыхнуўся 37-гадовы гаспадар, які жыў адзін.

Па некаторых дадзеных, трагедыі папярэднічала добрая вячэрняя выпіўка.

**І.ДАНІЛОВІЧ.**



## КРЫЖАВАНКА

**Склаў Вадзім ЮШЧАК.**

**Па гарызанталі:**

1. сусьветна вядомая царква, якую пабудаваў полацкі дойлід Іаан на заказ Еўфрасіньні Полацкай. 5. Горад, у якім нарадзіўся Клім Міхайлаў, майстар аб'ёмнай разьбы, які стварыў іканастас Смаленскага сабора ў Маскве. 7. Сукупнасьць дакумэнтаў па якой-небудзь справе. 8. Дубец як сродак пакараньня. 9. Зборнік гэаграфічных карт. 10. Аўтар падручніка "Першае чытаньне для дзетак беларусаў". 11. Бязворсавы дыван. 14. Хрысьціянскае імя ювэліра, стварыўшага ў 1161 годзе крыж - бясцэнную сьвятыню беларусаў. 17. Кніга Сымона Буднага - выдатнага дзеяча беларускай Рэфармацыі 16 стагоддзя. 19. Рэпутацыя, слава, вядомасьць. 20. Нізкая мясьціна. 21. Дзяржаўны гэрб Беларусі. 24. "Вялікае мастацтва артылерыі", беларускі вучоны 17 стагоддзя. 30. Сваякі. 32. Адзін з віленскіх мяшчанаў, які фінансаваў выдавецкую дзейнасьць Ф.Скарыны ў Вільні. 34. Даход ад зямлі, які не патрабуе ад уладальніка ніякай прадпрыймальніцкай дзейнасьці. 35. Горад у Эстоніі, старая назва - Юр'еў. 36. Дэзінфіцыруючая вадкасьць чырвона-бурага колеру. 37. Група людзей, аб'яднаных з карысьлівай мэтай. 38. Назва, афіцыйна замацаваная за Жамойціяй 16 лютага 1918 года актам аб незалежнасьці. 39. Горад - былая сталіца Беларусі.

**Па вертыкалі:**

1. Унутранае памяшканьне грабніцы. 2. Пісьмовае прывітаньне юбіляру. 3. Акуляры без завушных дужак. 4. Сын беларускіх эмігрантаў - "зорка" паўночнаамерыканскага хакэю. 5. Сусьветна вядомы мастак. 6. Частка сутак. 12. Кансультант пры пасольстве. 13. Аўтар кнігі "Ні дня без радка". 15. Ікона. 16. Імя аднаго з братоў Луцкевічаў, які ў 1906 годзе быў ініцыятарам заснаваньня першай легальнай беларускай газэты "Наша Доля". 17. Рабочы на будаўніцтве аб'екту з вялікіх камнёў. 18. Герой Вялікай Айчыннай вайны, танкіст, ураджэнец в.Селіба Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласьці. 22. Сродак для ворыва. 23. Назва некаторых таямнічых грамадзтваў,. 25. Палажэньне, якое лічыцца адзінай і бязспрэчнай ісьцінай. 26. Разнастайныя абаранляльныя пабудовы ў крэпасьцях. 28. Князь, які падпісаў 14 жніўня 1385 года Крэўскую вунію. 29. Раздзел фізыкі. 30. Адно з імён, якім у Эўропе называлі Канстаньціна Астрожскага - славутага героя беларускай гісторыі. 31. Бог вясновай урадлівасьці й плоднасьці, якога шанавалі нашыя продкі ў дахрысьціянскія часы. 32. Даўнейшая ўзорыстая сталь для клінкоў. 33. Беларус з паходжаньня, заснавальнік маскоўскай "пушкарской" традыцыі, які адліў "цар-гармату".

"ПАГОНЯ"
РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ
Заснавальнік:
культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Даменіканская, 1.
Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.
Газэта выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.
Індэкс 63124. Ліцэньзія № 465.
Фотанабор, афсэтны друк.
Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.
Заказ 2814.
Тыраж 3713 асобнікаў.